© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 17 (582) ГОД XII 23 КРАСАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

16-га красавіка адбылося IV-ае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У павестцы дня было: «Месца БГКТ у рэалізацыі пастановы прэзідыума ВРН» і інфармацыя аб выкананні плана працы ГП за 1966 год.

Справаздачу з пленума чытайце ў наступным нумары «Нівы».

### З ВІЗІТАМ У БЕЛАВЕЖЫ

Паэтэса з Беларусі Ларыса Геніюш 11-га красавіка наведала Белавежу. Пабывала яна ў этнаграфічным музеі ГП БГКТ і ў дзяржаўным прыродазнаўча-лясным музеі. Пасля адбылося спатканне паэтэсы Ларысы Геніюш з працаўнікамі ГС-у.

### ЛЕАНІД ПОБАЛЬ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР Леанід Побаль, які знаходзіцца ў Польшчы ў навуковай камандзіроўцы, наведаў Беласточчыну. Вучоны археолаг азнаёміўся з матэрыяламі этнаграфічнага музея ў Беластоку, наведаў паўночную і паўднёва-ўсходнюю частку Беласточчыны. 6-га красавіка сустрэўся ён з моладдзю і настаўнікамі беларускага ліцэя ў Бельску, на якой расказаў аб даследчай археалагічнай працы ў БССР. У гэты ж самы дзень пабываў ён у этнаграфічным музеі БГКТ у Белавежы.

7-га красавіка Леанід Побаль спаткаўся з актывам беларускага таварыства ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку і расказаў ім аб археалагічных доследах у БССР.

### АГЛЯД ДРАМГУРТКОЎ

Шумна было 9 красавіка 1967 года ў Гайнаўскім Доме настаўніка. У гэтую нядзелю адбываліся тут павятовыя агляды драматычна-эстрадных калектываў з рэпертуарам на беларускай мове.

Урачыстасці адкрыў старшыня гуртка БГКТ у горадзе Гайнаўка — Кастусь Грыц. Ва ўступным слове запазнаў ён прысутных са структурай аглядаў, пажадаў усім самадзейнікам добрых вынікаў і запрасіў у склад журы кіраўніка культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Міколу Лобача, кіраўніка аддзела культуры Прэзідыума павятовай рады народовай — Станіслава Кастэру, старшыню Гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандра Іванюка і члена Прэзідыума аддзела Васіля Сакоўскага.

У аглядзе ўзяло ўдзел 3 драмгурткі, 4-ты драмгурток з пачатковай школы ў Новаберазове выступіў па-за конкурсам. Першым выступіў драмгурток з Чыжоў з п'есай Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка».

Мастацкі калектыў з Ляшукоў паказаў п'есу Гуралёва «Выбух», а гайнаўскія аматары падрыхтавалі п'есу Алеся Барскага «Гарадскія госці».

Пасля доўгай нарады журы конкурсу прызнала мастацкім калектывам месцы і ўзнагароды. І так, першае месца было прызнана драмгуртку з Гайнаўкі, другое — самадзейнікам з Ляшукоў, а трэцяе — моладзі з вёскі Чыжы.

Школьны калектыў з Новаберазова з эстраднай праграмай адзначыўся добрай ігрой самадзейнікаў.

На заканчэнне кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ПРН Станіслаў Кастэра выказаў гарачую падзяку ўсім самадзейнікам за дасягненні высокага мастацкага ўзроўню і заахвочваў іх да далейшай працы.

С. С.



Гродна і Беласток злучае сардэчная сяброўская дружба. Від на Гродзенскі азатукавы камбінат.

## БРАЦКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**«Старому свету, свету нацыянальнага прыгнёту, нацыянальнай грызні або нацыянальнага адасаблення рабочыя супрацьпастаўляюць новы свет еднасці працоўных усіх нацый, у якім няма месца ні для адной прывілегіі, ні для найменшага прыгнечання чалавека чалавекам».**

**Уладзімір Ільіч Ленін**

Кніга В. С. Талстога «Брацкае супрацоўніцтва беларускага і польскага народаў», якая выйшла ў Мінску ў 1966 годзе, з'яўляецца адной з першых спроб даць падрабязны і ўсебаковы агляд супрацоўніцтва паміж нашымі брацкімі народамі на працягу апошніх дваццаці пяці год. Нягледзячы на невялікі аб'ём кнігі (каля 140 старонак) яе аўтар трапна вылучыў з надзвычай багатага матэрыялу, што адносіцца да добрасуседскіх беларуска-польскіх суадносін, найбольш істотныя моманты і факты і даў ім адпаведнае навуковае выясненне. Знаходзім тут разгляд прадпасылак супрацоўніцтва Савецкай Беларусі з Польскай Народнай Рэспублікай, дзе аўтар падкрэслівае факт, што пачаткі былі пакладзены ў сумеснай гераічнай барацьбе польскага і беларускага народаў супраць фашысцкіх захопнікаў у часе мінулай вайны. Прыгадвае, што 12 кастрычніка 1943 года дывізія імя Т. Касцюшкі, якая з'явілася ядром адроджаных ваенных сіл Народнай Польшчы, уступіла на свой пераможны шлях змаганняў за вызваленне роднага краю іменна на беларускай зямлі ля вёскі Леніна Гарэцкага раёна Магілёўскай вобласці. За гераічныя подзвігі польскіх салдат у іх першым баю ўрад СССР прысвоіў 239 салдатам і афіцэрам ордэны і медалі Савецкага Саюза, а тром — высокае званне Героя Савецкага Саюза. Шмат месца аўтар кнігі прысвячае партызанскаму руху на Беларусі і ў Польшчы, у якім вельмі часта паасобныя атрады складаліся з беларусаў і палякаў.

У раздзеле «Устанаўленне савецка-польскай граніцы. Рэпатрыяцыя беларускага і польскага насельніцтва» знаходзім грунтоўны разгляд гістарычных, дыпламатычных і этнаграфічных фактараў, якія былі ўзяты за аснову канчатковага ўстанаўлення сучаснай лініі граніцы паміж БССР і Польшчай. У выніку гэтага, як слушна сцвярджае В. Талстой — «упершыню ў гісторыі граніца паміж СССР і Польшчай перастала служыць крыніцай варожасці і нянавісці».

Не менш цікавыя звесткі знаходзім у раздзеле «Беларуска-польскае супрацоўніцтва ў міжнародных арганізацыях. Дзелавыя кантакты партыйных арганізацый і органаў дзяржаўнай улады БССР і ПНР», у якім прыводзяцца шматлікія факты сумесных польска-беларускіх ініцыятываў на форуме Арга-

(Працяг на стар. 3)

## БЕЛАРУСКІ МІЖШКОЛЬНЫ КОНКУРС

### РЭГУЛЯМІН

1. 6 Беларускі міжшкольны конкурс праводзіцца ў рамах 14 агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу, які тэматычна навязвае да 25 гадавіны Польскай рабочай партыі і 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Мэтай конкурсу з'яўляецца: навязанне да прагрэсіўных традыцый беларускага народа, паглыбленне пашаны да роднай мовы, пашырэнне цікавасці да самастойнага вывучэння творчасці паасобных беларускіх пісьменнікаў.

2. Конкурс будзе праведзены ў форме калектыўнай дэкламацыі (інсцэнізацыі) шляхам трохступенных аглядаў.

а) міжкласныя ў паасобных школах да 15. X. 1967 года.

б) міжшкольныя павятовыя да 22. X. 1967 года.

в) цэнтральны агляд 29.X.1967 г. у Беластоку.

3. Кожная школа можа выступіць не больш як з адным спектаклем.

4. Час трывання спектакля не павінен цягнуцца даўжэй чым 15 мінут. Колькасць вучняў у групе не абмяжоўваецца, залежыць яна ад патрэб спектакля.

5. На цэнтральны агляд Бельскі павет прышле 3 найлепшыя групы — вучняў школ пачатковых і па 1 ад школ сярэдніх. Гайнаўка 5 груп вучняў школ падставовых і 1 ад школы сярэдняй. Беласток — 2 групы вучняў школ падставовых і 1 ад школы сярэдняй, Саколка і Сямяцічы па адной групе вучняў школ падставовых.

6. Аб'яўленне вынікаў конкурсу і разданне рэчавых узнагарод пераможцам цэнтральнага спаборніцтва адбудзецца непасрэдна пасля яго заканчэння 29. X. 1967 г.

### УКАЗАННІ ДА АРГАНІЗАЦЫІ КОНКУРСУ

6 Беларускі конкурс з'яўляецца мастацкім мерапрыемствам. Таму шмат увагі прысвяціць трэба шырокай выхаваўчай працы, якая павінна папярэдзіць конкурс.

Вучні, рыхтуючыся да конкурсу, пастараюцца добра пазнаць аўтара, рысы яго творчасці, характар эпохі і г. д. Увазе ўдзельнікаў конкурсу прапануецца паэзія, проза і п'есы. Выбар тэматыкі твораў свабодны.

У імкненні да асягнення выхаваўчай ролі конкурсу арганізатары павінны стварыць атмасферу адказнасці за свой уласны калектыў і школу ў барацьбе за першае месца ў аглядах.

Пасля прыезду з цэнтральнага агляду ўдзельнікаў у школах трэба сарганізаваць па гэтай прычыне школьныя ўрачыстасці.

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-
культурнага таварыства
ў Беластоку.

Кураторыя Беластоцкай
школьнай акругі
ў Беластоку

## ЗА ТЫДЗЕНЬ:




**Хвалюючы раман пра драматычную барацьбу савецкай і нямецкай разведак у гады апошняй вайны. Падзеі разыгрываюцца на тэрыторыі акупаванай Польшчы.**

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### НОВЫ МІНІСТР АБАРОНЫ СССР

Дэкрэтам Вярхоўнага Савета **маршал Андрэй Грэчка** назначаны **міністрам** абароны СССР. Дагэтуль быў ён першым наменнікам міністра абароны СССР, а ад 1960 года галоўнакамандуючым злучаных узброеных сіл Варшаўскага дагавору.

А. Грэчка нарадзіўся ў 1904 годзе і маючы 16 год пачаў весці службу ў арміі С. Будзённага. Перад II сусветнай вайной закончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе і акадэмію Генеральнага Штаба. Наданне чыну маршала А. Грэчка адбылося ў 1955 годзе.

Першымі намеснікамі міністра абароны назначаны: камандуючы кіеўскай ваеннай акругай **Іван Якубоўскі,** які атрымаў чын маршала, і камандуючы ленінградскай ваеннай акругай **Сяргей Сакалоў,** які атрымаў чын генерала арміі. Намеснікам міністра назначаны **Іван Паўлоўскі,** які атрымаў чын генерала арміі.

### ДЭМАНСТРАЦЫІ СУПРАЦЬ ВАЙНЫ

У Нью-Йорку адбылася велізарная дэманстрацыя супраць вайны ва В'етнаме. У дэманстрацыі найбольш прыняло ўдзел моладзі і былых ваеннаслужачых. На ўвагу заслугоўвае тое, што была гэта **найвялікшая дэманстрацыя ў гісторыі ЗША.**

Падобная дэманстрацыя адбылася ў Сан-Францыска. Тут прыняло ўдзел каля 200 тысяч чалавек.

### З'ЕЗД САПР

У Берліне адбываецца VII з'езд Сацыялістычнай Адзінай партыі Германіі. Савецкую дэлегацыю ўзначальвае генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў, а польскую — I сакратар ЦК ПАРП У. Гамулка.

### ЗАЯВА Л. ДЖОНСАНА

Прэзідэнт ЗША зноў адхіліў заклікі аб безагаворачным і пастаянным спыненні амерыканскіх бамбардзіровак ДРВ. Ён выказаў незадавальненне тым, што як у самых Злучаных Штатах, так і ва ўсім свеце ўзмацняецца крытыка агрэсіўнага знешнепалітычнага курсу Вашынгтона ў Паўднёва-Усходняй Азіі. Падкрэсліў ён, што ЗША будуць працягваць сваю ранейшую палітыку ў В'етнаме і заклікаў амерыканцаў аказаць ёй падтрымку.

### САВЕЦКІЯ ВАЕННЫЯ АБСТАЛЯВАННІ КАМБОДЖЫ

Недалёка сталіцы Камбоджы адбылася ўрачыстасць звязаная з перавядзеннем дару камбаджанскаму народу і ўраду новай партыі савецкіх ваенных і транспартных самалётаў, а таксама зенітных гармат.

### 9-ГАДОВАЕ АБАВЯЗВАЮЧАЕ НАВУЧАННЕ Ў КНДР

Урад Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі ў апошнім часе выдаў дэкрэт у сувязі з увядзеннем з днём I.IV.1967 г. пастановы аб увядзенні ў КНРД 9-гадовага абавязваючага тэхнічнага навучання.

Пастанову ў гэтай справе прынята ў лістападзе мінулага года. Дзевяцігадовае абавязковае навучанне ахопіць дзяцей ва ўзросце 7—16 год. АК

## БССР

### ЮБІЛЕЙНАЕ

Для ўдзелу ў рабоце юбілейнага пасяджэння Еўрапейскай эканамічнай камісіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якое адбылося ў Жэневе, Савет Міністраў Беларускай ССР зацвердзіў дэлегацыю рэспублікі на чале з А. Гурыновічам, міністрам замежных спраў Беларускай ССР.

### САРАКАГОДДЗЕ

У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся сход партыйнага актыву беларускай сталіцы, прысвечаны 40-годдзю з дня заснавання часопіса «Коммунист Белоруссии». У сходзе прынялі ўдзел кіраўнікі беларускай кампартыі — П. Машэраў, С. Пілатовіч, С. Прытыцкі.

На заканчэнне сходу паказана спектакль «Канстанцін Заслонаў», — п'еса аб беларускім партызанскім герoі часоў апошняй вайны.

### УКАЗ

Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя ЛКСМ узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Брэсцкі тэатр даў ужо шэсцьсот спектакляў.

### З'ЕЗД

Адбыўся X-ы з'езд Таварыства Чырвонага Крыжа Беларускай ССР.

### КАНЦЭРТЫ

«Мелодыі сяброў» — пад такою назваю адбыліся ў Мінску канцэрты артыстаў з Балгарыі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, Югаславіі.

### У МАСКВУ

Савет па беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў Саюза СССР сваё пасяджэнне 6 красавіка г.г. прысвяціў маладой беларускай паэзіі. На пасяджэнне была запрошана група беларускіх паэтаў — м. ін. Данута Бічэль-Загнетава і Вольга Іпатава з Гродна.

Маладыя беларускія паэтэсы і паэты прынялі ўдзел у вечарах беларускай паэзіі, якія адбыліся ў Вышэйшай партыйнай школе пры Цэнтральным Камітэце КПСС і ў Дзяржаўнай юначай бібліятэцы Расійскай СФСР.

### ДЫСЕРТАЦЫЯ

Валянціна Лемцюгова напісала дысертацыю «Тапанімія Міншчыны», у якой разглядае паходжанне назваў гарадоў, вёсак, рэк, азёраў. Вынікае, што тэрыторыя Мінскай вобласці са старажытных часоў была заселена славянскімі плямёнамі крывічоў і дрыгвічоў.

### СЛУШНА

Са слушнымі рэплікамі сустрэта выданне ў Варшаве «Малога слоўніка пісьменнікаў еўрапейскіх народаў СССР». У «Слоўніку» змешчана звыш шасцісот артыкулаў пра рускіх, украінскіх, беларускіх, літоўскіх, латышскіх, эстонскіх пісьменнікаў. Аднак беларуская літаратура паказана ў «Слоўніку» вельмі бедна, прысвечана ёй усяго трыццаць восем артыкулаў, у той час, як, скажам, літоўскай — 59 артыкулаў (пяцьдзесят дзевяць). (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### АСВЕНЦІМ

16.IV. на палях найвялікшага ў свеце гітлераўскага лагера масавага знішчэння ў Асвенціме-Бжэзінцы быў адкрыты помнік-маўзалей у гонар 4 мільёнаў ахвяр фашызму. Урачыстасць згуртавала каля 200 тысяч людзей з краіны і з-за мяжы. З прамовай выступіў прэзас Галоўнай рады ЗБоВіД-у прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. Прэм'ер сімвалічна адзначыў помнік Крыжам Грунвальду I класа прызнаным Радай Дзяржавы тым, што змагаліся і гінулі ў Асвенцімскім лагеры. Прысутныя прынялі заклік да народаў свету. У закліку, між іншым, гаворыцца:

«З гэтага месца мы — асвянцімская сям'я чалавечая ад імя мільёнаў загазаваных і ад імя мільёнаў жывых абцяжаных памяццю аб злачынствах гітлерызму заклікаем да чалавецтва:

— трэба нам спалучыць намаганні ў барацьбе за мір, за агульнае разбраенне, за нераспаўсюджванне атамнай зброі, за забарону яе прадукцыі і знішчэнне яе запасаў — мусім перакрэсліць назаўсёды вайну, як метад вырашэння канфліктаў».

Будзем рабіць усё, каб прыкладна пакараць гітлераўскіх злачынцаў, бо злачынствы людабойства ні забытымі, ні прабачанымі быць не могуць.

Заклікаем народы, урады і парламенты:

Захавайце чуйнасць усюды там, дзе паявіцца хаця б іскра фашысцкай небяспекі і небяспекі вайны».

### ІМЯ ЛЕНІНА

15.IV. з аказіі 92 гадавіны нараджэння Уладзіміра Леніна і 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі адбылася ўрачыстасць засваення Гданьскай суднаверфі, імя Уладзіміра Леніна. Урачыстасць спалучана была са спускам на ваду карабля «Паможэ», збудаванага ў гэтай суднаверфі. З прамовай выступілі: сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Зэнан Клішка і пасол СССР у Польшчы А. Арыстаў.

### ПЕРСПЕКТЫВЫ БУДУЧЫХ СТУДЭНТАЎ

Вышэйшыя навуковыя ўстановы краіны прымуць у гэтым годзе 39.530 новых студэнтаў, гэта значыць на 5 тысяч больш, чымсьці ў мінулым годзе. Да ўступных экзаменаў у вышэйшыя школы прыступіць 95 тысяч моладзі. Найбольшую колькасць асоб (2855) прыме Варшаўскі палітэхнічны інстытут, а 7 універсітэтаў краіны прыме ў суме 10.600 новых студэнтаў. Найменшым зацікаўленнем моладзі цешацца вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы. Распараджаюцца яны ў гэтым годзе 4.660 месцамі. У вышэйшых тэатральных і фільмовых школах маецца зараз больш як 4 кандыдаты на адно месца, у школах мастацтва — 3 кандыдаты.

### РАЗВОДЫ

Колькасць разводаў у Польшчы ўзрастае. У мінулым годзе да судоў ва ўсёй краіне ўплыло 42 633 заявы аб разводы, гэта значыць на 3 тысячы больш, чымсьці ў папярэднім годзе. Менш, тым часам, было спраў, у якіх суды давалі нязгодным сем'ям сапраўды разводы. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНАРНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

...Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку адбылося 15 красавіка. Было яно прысвечана абмеркаванню метадаў планавання прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў. Дзякуючы больш аператыўнаму планаванню вартасць прадукцыі прадпрыемстваў Беласточчыны перавысіла пачаткова планаваны ўзровень у мінулым годзе амаль на мільярд злотых, а ў гэтым годзе запланавана звышпланавай прадукцыі на паўтара мільярда злотых.

### САВЕЦКІЯ ГОСЦІ

Беласточчыну наведалі прадстаўнікі Савецкага пасольства, яго сакратары: Іван Лукоўнікаў і Сяргей Кручкоў. Першы з іх пабываў у Ломжы і Навагродзе, сустракаўся з міхалоўскімі ліцэістамі і працаўнікамі дзяржаўнага агародніцкага гаспадарства ў Ігнатках, у Беластоку наведаў ён медыцынскі ліцэй і сустрэўся з работнікамі аптэчнай управы. Сяргей Кручкоў пабываў у Граеве, Райгродзе і Бельску. Сустракаўся са студэнтамі вышэйшай інжынерскай школы і з вучнямі педліцэя ў Беластоку, а таксама наведаў вёскі Саколы і Туроснь Касцельну.

Візіт гэты супаў з гадавінай падпісання дагавору аб дружбе і ўзаемным супрацоўніцтве Польшчы і СССР. Абодва савецкія госці прынялі ўдзел ва ўрачыстай вечарыне з нагоды гэтай гадавіны. Вечарына адбылася ў Беластоцкім клубе міжнароднай прэсы і кніжкі.

### ТЫДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ

Асноўныя ўрачыстасці ў Беластоцкім ваяводстве ў сувязі з тыднем міжнароднай салідарнасці з рухам супраціўлення фашызму, адбыліся ў Бацечках пад Беластокам. Тут у 1941—1943 гадах гітлераўцы замардавалі 3 тысячы чалавек.

### ПРАМЫСЛОВАСЦЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ...

...выканала план агульнай прадукцыі за месяц сакавік г.г. у 103,2%. У параўнанні з гэтым жа самым перыядам мінулага года прадукцыя прамысловых прадпрыемстваў Беласточчыны павялічылася на 16%. У сакавіку атрымала працу 3050 асоб.

### ГОСЦІ З ЛІТВЫ

У сувязі з трэцяй велагонкай дружбы ў Беластоку пабывалі прадстаўнікі моладзі савецкай Літвы. Сяміасабовую дэлегацыю ўзначальваў сакратар ЦК Камсамола Літвы, тав. Якубайтыс. Прымалі іх працаўнікі ваяводскага праўлення ССМ. Трэцяя велагонка дружбы адбудзецца ў чэрвені г.г. Госці з Літвы абмяркоўвалі таксама праблемы ўзаемных кантактаў моладзі Беласточчыны і прыгранічных раёнаў Савецкай Літвы.

### МІХАЛОЎСКІЯ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКІ...

...у дзень свайго свята, 16 красавіка, атрымалі завадскі сцяг. Калектыў міхалоўскага прадпрыемства ваўнянай прамысловасці з'яўляецца перадавым калектывам завода імя Сяржана ў Беластоку. (вр)




**Niedziela 23.IV.**

8.30 Politechnika TV. 10.10 „Śladami kpt. Cooka" — film odc. IV. 11.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów w skokach do wody. 12.00 „W świecie sztuki" (Sofia). 12.30 Dziennik. 12.40 „Najpiękniejsze głosy". 13.10 „Przemiany". 13.35 Film. 14.00 Dla dzieci: „W naturze nie ma linii prostej". 14.20 „Ula i świat". 14.50 „Wielka gra". 16.00 „Piórkiem i węglem". 16.20 „Czarownice". 16.45 PKF. 17.00 Sprawozdanie sportowe. 17.45 Studio 63: „Pochwalone niech będą ptaki" K. I. Gałczyńskiego. 18.30 „Ludzie i zdarzenia". 19.05 „Klub prof. Tutki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Listy śpiewające". 20.50 „Paryski listonosz" — film fab. fr. 22.15 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 24.IV.**

16.55 Dziennik. 17.00 „Przygody Gapiszona" — film. 17.10 „Zwierzyniec domowy" odc. III. 17.30 „Bryza". 17.55 Kino Krótkich Filmów. 18.25 Magazyn Postępu Technicznego. 19.00 „Śladami Rewolucji" (Leningrad). 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik. 20.10 Teatr TV: „Ostatnie rozmowy" — sceny dramatyczne wg powieści J. Putramenta „Wrzesień". 21.30 „Na półkach księgarskich". 21.40 „C.I.A. i R.W.E." — program dokumentalny. 22.05 Dziennik.

**Wtorek 25.IV.**

10.00 „Najdroższa" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół: (kl. V—VI) „O miejsce wśród ludzi" — „Przyjaźń". 15.20 Przysposobienie Rolnicze. 15.55 Sprawozdanie z meczu półfinałowego Pucharu Europy w piłce nożnej Dukla Praha — „Celtigg" Glasgow (Praha). 17.45 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 18.00 Kino Filmów Amatorskich. 18.30 „Giełda piosenki". 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Nad Odrą i Bałtykiem". 20.30 „Najdroższa" — film fab. radz. 21.50 „Popołudnia nad Wkrą". 22.30 Dziennik.

**Środa 26.IV.**

10.00 „Byłem naocznym świadkiem" — film TV USA. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Będę oficerem". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Prąd trójfazowy". 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Najważniejszy z kwasów". 16.05 Stosowanie herbicydów w zbożach. 16.35 PKF. 16.45 „Kwadrat" — film CSRS. 16.55 Dziennik. 17.00 „Klub Pancernych". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 Wszechnica TV: „Za kierownicą". 18.20 „Wielcy artyści" — program muzyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „I znów wiosna", film radz. 20.15 „Byłem naocznym świadkiem" — film tv USA. 21.05 „Światowid". 21.35 „Rozkaz" — film CSRS (balet). 22.00 „Wieczory na zamku". 22.20 Dziennik.

**Czwartek 27.IV.**

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Skrzydła husarskie". 16.15 Ochrona roślin zbożowych. 16.45 Film. 16.55 Dziennik. 17.00 Kino Ptyś. 17.15 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę". 17.45 „Il Mezzogiorno" — rep. film. Tele-Aru. 18.05 „Kwadrans zagadek". 18.20 „Kiedy trzeba podjąć decyzję?". 18.45 II program muzyczno-baletowy „Metamorfozy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.50 KOBRA 21.00 „Muzyka u siebie w domu". 21.30 Trybuna Telewizyjna. 22.15 Dziennik.

**Piątek 28.IV.**

10.30 „Jeśli masz rację" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół: (kl XI) Propedeutyka filozofii — „Sytuacje konfliktowe dzisiejszej młodzieży". 12.45 Dla szkół: (kl. III) „Od ziarnka do kromki chleba". 15.45 Politechnika TV. 16.50 Dziennik. 16.55 „Miś z okienka". 17.10 Dla młodych widzów: „20 km od Kłodzka" — rep. film. 17.25 Dla młodych widzów: „Jak dawniej drukowano książki". 17.55 Wszechnica TV: „Księżyc 1970?". 18.25 „Wielokropek". 18.40 „Czwarta zmiana". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 TV Kurier Mazowiecki. 20.15 Teatr TV: E. Szuster „Dragon". 21.15 „10 minut recenzji". 21.25 „Preparowanie faktów". 21.55 Dziennik. 22.15 Politechnika.

**Sobota 29.IV.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia „Japonia". 10.30 „Łatwe życie — film fab. hiszp. 16.55 Program tygodnia. 17.10 Dziennik. 17.15 „Tele-Echo". 18.00 „Szef" — film („Bonanza"). 18.50 „Warszawa ja i Ty". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 „Błękitny express. 20.45 „Nad Wisłą" — program rozrywkowo-estradowy z Wesołego Miasteczka. 21.45 Dziennik. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.10 „Łatwe życie" — film fab. hiszp.




**21 kwietnia, piątek**

9.00 Dziennik. 9.15 Film TV. 9.50 „Wiedza polityczna dla wszystkich". 14.45 Program. 14.50 Dla dzieci. 15.00 Dla uczniów. 15.30 „Pieśni o Leninie". 16.00 Dzennik. 16.20 Film TV. 17.50 „Kronika półwiecza". Film TV. 18.50 Program muzyczny. 19.00 Sztafeta nowin 20.00 Dziennik. 20.10 „Pochmurny ranek". Film.

**22 kwietnia, sobota**

9.00 „Od Lutego do Października". 9.30 Dla uczniów. 11.55 Program. 12.00 „Pamiętasz, towarzyszu!". Spektakl TV. 13.10 Program z Ulianowska. 14.00 Transmisja z Kremlowskiego Pałacu Zjazdów. 18.00 Piłka nożna: „Dynamo (M) — „Spartak" (M). 19.00 „Kronika półwiecza" film TV. 20.00 „Serce matki" film.

**23 kwietnia, niedziela**

7.55 Program. 8.00 „Budzik". 8.30 Gimnastyka. 9.00 Almanach literacki. 9.50 Muzeum Puszkina. 10.20 Spotkanie z mistrzami sceny. 11.00 Dla uczniów. 11.40 Hokej: CSKA — „Spartak" (M). 13.20 Dla żołnierzy. 14.00 Dziennik. 14.20 Konferencja prasowa z laureatami Nagrody Leninowskiej w dziedzinie nauki i techniki. 15.00 Program sportowy. 15.45 Dla uczniów. 16.10 Szkatułka muzyczna. 16.30 „Kronika półwiecza" film TV. 17.30 Piłka nożna: Węgry — Jugosławia. 18.15 Dziennik. 18.40 „Klub Wesołych". 20.40 „Poezja 67". Almanach literacki.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# БРАЦКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

(Працяг са стар. 1)

нізацыі Аб'яднаных Нацый па рашэнню важных міжнародных праблем. Тут прыпамінаецца, што БССР як праваздзейны член ААН унесла на першай Генеральнай сесіі Асамблеі ў студзені 1946 года канкрэтны праект аб прыняцці рашучых мер для здзяйснення дэкларацыі аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў. Гэты праект быў падтрыманы прадстаўнікамі Польшчы і іншых міралюбівых краін. У выніку Генеральная Асамблея ААН прыняла спецыяльную рэзалюцыю «Аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў».

Раздзелы «Супрацоўніцтва ў галіне літаратуры і мастацтва» і «Супрацоўніцтва Беларускай ССР і Польскай Народнай Рэспублікі ў галіне навукі і асветы» дастаўляюць шырокую інфармацыю пра абмен паміж дзвюма краінамі ў галіне культуры і асветы. І так, на працягу 15 пасляваенных год каля 300 назваў твораў беларускіх аўтараў было апублікавана ў Польшчы ў розных часопісах або выйшла паасобнымі кніжнымі выданнямі. Ад 1954 да 1964 гадоў у Польшчы было прадана звыш 60 тысяч экземпляраў кніг беларускай мастацкай літаратуры. У БССР за перыяд ад 1944 да 1962 года было перакладзена і выдана на беларускай мове 213 назваў кніг польскіх аўтараў.

Шмат малавядомых нам, але надзвычай паказальных фактаў беларуска-польскага супрацоўніцтва ў галіне эканомікі і навукі знаходзім у раздзелах «Знешнегандлёвыя сувязі СССР і ПНР. Удзел у іх Беларусі» і «Навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва і абмен перадавым вопытам у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі». Тут, між іншымі, знаходзім звесткі пра тое, што з 60 тысяч тон збожжа, якія ахвяравалі СССР у 1945 годзе для жыхароў Варшавы, 10 тысяч тон падаравала Беларуская ССР. У буйным развіцці гандлёвага абмену паміж СССР і Польшчай, які разгарнуўся ў пасляваенны час, асабліва выдатнае месца займае Беларусь. Так, напрыклад, у 1964 годзе звыш 30 прадпрыемстваў Савецкай Беларусі кіравала свае вырабы ў Польшчу, у іх ліку трактары, грузавыя аўтамашыны, металарэжучыя станкі, розныя электравымяральныя прыборы, радыёдэталі, гадзіннікі і шмат іншых тавараў. Цікава падкрэсліць, што першым замежным заказчыкам на прадукцыю Мінскага гадзіннікавага завода была Польшча. Ужо сем год гэты завод кіруе свае вырабы ў нашу краіну, і яны знаходзяць тут шмат ахвотных пакупнікоў. Ад 1959 года Бярозаўская гідраэлектрастанцыя, што знаходзіцца ў БССР, перасылае на Беласточчыну сваю электраэнергію. Для гэтага была пабудавана БССР і Польшчай спецыяльная высакавольтавая лінія, якая злучае Бярозаўскую ГЭС з Беласточчынай. Паводле пагаднення паміж Польшчай і СССР, якое было падпісана ў 1963 годзе, наша краіна згадзілася на працягу 5 год дастаўляць у Савецкі Саюз неабходнае абсталяванне і матэрыялы на варунках крэдыту на суму 70 мільёнаў рублёў з мэтай павелічэння прадукцыі Салігорскага калійнага камбіната, што пабудован на поўначы Беларусі. У якасці заплаты Салігорскі камбінат будзе, пачынаючы з 1970 года, высылаць у Польшчу штогод па 600 тысяч тон калійных солей (солей патасовых) і давядзе колькасць гэтай высылкі да аднаго мільёна тон у 1975 годзе.



Шахцёры Салігорска.



Канвеер Мінскага гадзіннікавага завода. Яго прадукцыя карыстаецца ўзрастаючым поспехам у Польшчы.

Вялікую карысць прыносіць супрацоўніцтва меліяратараў Беларусі і Польшчы. У яго выніку працаўнікі меліярацыі Брэстчыны і Беласточчыны здзейснілі вельмі карысныя для абедзвюх краін працы па ўрэгуляванню воднай сістэмы ракі Лясной.

Вузкія рамкі гэтага артыкула не дазваляюць прывесці большую колькасць фактаў і лікаў, у якія так багата кніга В.С. Талстога «Брацкае супрацоўніцтва беларускага і польскага народаў». Яна з'яўляецца яшчэ адным доказам таго, што «Вынікі 20-цігадовага перыяду супрацоўніцтва Беларускай ССР і Польскай Народнай Рэспублікі даюць падставу сцвярджаць, што дружба брацкіх народаў, заснаваная на супольнасці інтарэсаў і заданняў, на ідэях пралетарскага інтэрнацыяналізму, з'яўляецца непарушнай».

**Мікалай Гайдук**

Бельск Падляшскі



Навуковыя работнікі ПНР знаёмяцца з Мінскім заводам медыцынскіх прэпаратаў.

---

А. Баршчэўскі В. Швед

# Дружба і праца

**Хрэстаматыя для VIII кл.**

## ГОЛАС РЭВАЛЮЦЫЙНАГА БЕЛАСТОКА

Першая і асноўная калона рабочых вылілася, вырасла аднекуль з гарадскіх нетраў і ішла без шапак. Нават жанчыны апусцілі хусткі на шыі. Над натоўпам развіваліся чатыры сцягі. На першым сцягу, які неслі на двух дрэўках, амаль на ўсю шырыню калоны на чырвоным палотнішчы бялелі вялікія літары: «Прэч крывавыя рукі ад СССР!», «Сарваць прадажніцкі саюз з фашысцкай Германіяй!» На другім — «Свабоду вязню нямецкага фашызма таварышу Тэльману — правадыру нямецкага пралетарыята! Патрабуем вызвалення палітзняволеных з турмаў! Далоў белы тэрор!» На трэцім — «Барацьба за павышэнне зарплаты — да перамогі! Прэч з фашысцкай рацыяналізацыяй працы, якая высіскае апошнія сокі з нашых жыл!», «Хлеба і працы беспрацоўным!» Пікеты выпускалі з брам новыя калоны, якія ўзмахамі шапак, рук, сціснутых у кулакі, віталі дэманстрантаў. «Няхай жыве забастоўка!», «Няхай жыве салідарнасць працоўных!» — і ўліваліся ў магутную калону, павялічвалі яе, рабілі даўжэйшай і гусцейшай.

Калона расла ў даўжыню, калыхалася хвалямі, імкнула размеранай ступою, стрымана, магутна — наперад і наперад. Чырвоныя павязкі ў пікетчыкаў мільгалі ўздоўж калон па баках. З аднаго двара вышлі са сцягам людзі ў шэрых куртках, вышлі сяляне. Іх сустрэлі не толькі воклічамі, але і воплескамі. Сяляне неслі на сваіх сцягах: «Прэч разбойніцкія рукі ад СССР — бацькаўшчыны працоўных! Няхай жыве антыфашысцкі народны фронт! Прэч асаднікаў — каланізатараў з Заходняй Беларусі! Прэч з фашысцкай зямельнай камасацыяй! Зямля сялянам, без выкупу! Хлеба і працы!»

Паліцыянты, убачыўшы здалёк набліжэнне калоны, уцякалі на падворкі. Гандляры замыкалі свае магазіны і апускалі жалезныя аканіцы на вокны. Панічны стук дзвярэй, як пераклічка, паплыў па вуліцы: — бах, бах, бах...

Вось ужо ўскраіна і ваенныя казармы. Вартавыя стаяць пры браме, і выходзяць на вуліцу чалавек дванаццаць салдат, пастроеных у чацвёркі. Рабочыя клічуць іх, асабліва жанчыны: «Хадзем з намі! Далучайцеся!» Вартавыя кінулі вінтоўкі і далучыліся да паходу. Тое самае зрабілі і тыя дванаццаць, што выходзілі з казарменнага двара. Сярод рабочых нават пракацілася «ура». У той жа момант чыесьці рукі закрылі казарменную браму на замок. Але калона плыве і плыве міма брамы, і лозунгі адзін за другім ляцяць за цаглянную сцяну казармы.

І адтуль, насустрач лозунгам, вылецелі шызакрылыя галубы, а ўслед за імі ўзвіліся чырвоныя стужкі з лозунгамі салідарнасці салдат з рабочым класам — стужкі, прывязаныя да птушыных лапак. Тады магутна загучэла песня, традыцыйная песня польскага пралетарыята. Яна лілася, як баявая пераклічка, з аднаго канца калоны ў далёкі яе другі канец, гучэла, як баявы заклік — наказ:

Рыцары працы, рыцары духа,
Сёння да бою нам час настаў, —
На барыкады! Пабудкі слухай!
Пабудка грае: «Паўстань, паўстань!»

І пасля паплыла бясконцай хваляй, як перазвон пабудкі:

Молат у далонь,
Бі, куй бронь,
Пырсне сталь
Чырвонай іскрай ўдаль!
Жар іскраў тых
Гарыць у грудзях маіх —
Брат, паўстань,
Агнём палае рань!
Агнём палае рань,
Палае рань!

Ішлі, ужо надзеўшы шапкі, ішлі самкнутай калонай, чалавек пры чалавеку. Не ішлі, а плылі адзінай магутнай плынню, узняўшы галовы — натхнёныя, суровыя, асветленыя чырванню сцягоў.

Леніну слава! І Марксу слава!
Прэч буржуазію! Народу чэсць!
Хай да шарэнгаў кожны з нас стане,
Каб іх навуку ўсюды несць!
Молат у далонь,
Бі, куй бронь...

Калона, як шумны паток, павярнула налева і тут, на павароце, у цёплай вязанай хустцы і ў кажушку, вышытым на грудзях, штурхнула пад локаць Андрэя. Ён глянуў і хацеў нават спыніцца. Яна ці не яна? Той самы нос і цёмныя бровы над гарачымі вачыма. Але здзіўляе гэты сялянскі кажушок, вышыты на грудзях. Адкуль ён можа быць у яе ды яшчэ тут? Не, гэта не яна. Толькі так здалося. Вось яна хоча ўжо аддаліцца ў плыні людскога патоку. Андрэй імкнецца за ёю. Наблізіўся, зірнуў асцярожна ў твар. Відаць, асцярожнасць была задоўгая, бо жанчына бліснула ўсмешкай так раптоўна нясподзявана, што Андрэй нічога не кажучы, падхапіў яе пад руку.

— Андрэй... — прашаптала яна.





© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ЯКІЯ МЫ КУЛЬТУРНЫЯ

**Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне і Аддзел культуры Прэзідыум ВРН у Беластоку з выпадку X сесіі ВРН, прысвечанай культуры і яе перспектыве, выдалі кніжачку лічбаў: «Культура Беластоцкага ваяводства ў лічбах 1960—1970». Кніжачка мае 120 старонак і з'яўляецца, пакуль што адзінай такой публікацыяй у краіне. Гэта прыгожая праца беластоцкай статыстыкі і Аддзела культуры.**

З гэтай кніжачкі даведваемся проста, як з люстэрка, якія мы культурныя. Гэта значыць, колькі і дзе нас вучыцца, колькі і што мы чытаем, колькі нас ходзіць у музеі, у тэатры, на канцэрты, у кіно. Колькі ў нас радыёапаратаў, тэлевізараў: колькі ў горадзе і колькі на вёсцы. Колькі маем святліц, клубаў, дамоў культуры. Чаго колькі ў паасобных нашых паветах.

З гэтых сухіх лічбаў стварыць можам сабе цікавую і пераважна не радасную карціну культуры.

Некалькі дадзеных, таксама лічбавых.

На аднаго чалавека прыпадае ў нас 2 кніжкі ў бібліятэках. На 1169 тысяч насельніцтва ваяводства мае 243 тысячы чытачоў гэтых бібліятэк.

Статыстыкі кажуць, што найменш чытачоў на тысячу людзей у... Беластоку. Але статыстыкі не ўлічваюць прыватных бібліятэк і прыватных закупаў кніжак. А ў Беластоку такіх бібліятэк нямала. Вельмі частыя вялікія кнігазборы прыватныя. У гэтым выпадку Беласток падымаецца да ўсіх вялікіх гарадоў краіны.

Перад вайной амаль не было на вёсцы кіно. Цяпер? Ці трэба гаварыць? Расце колькасць месц, сеансаў, але... людзей у кіно ходзіць усё менш. На вёсцы яшчэ заўважаецца гэта не так моцна.

Тэлевізары. У ваяводстве маем 44,9 тысяч тэлевізараў на канец 1966 года. Гэта адна з ніжэйшых лічбаў па колькасці тэлевізараў у краіне. У гарадах у нас 37,1 тысяч тэлевізараў, на вёсцы толькі 7,8 тысяч. А на вёсцы жыве 2/3 насельніцтва. (Пытанне, чаму на вёсцы мала тэлевізараў? Ці сапраўды вёска так бяднейшая ад горада, што прыватныя пакупкі тэлевізараў наогул з'ява рэдкая).

Газет чытаем мала. Горш і менш ад нас чытае яшчэ толькі ваяводства Варшаўскае (без Варшавы).

План развіцця культурна-асветных пляцовак у ваяводстве выглядае: у 1970 годзе будзе: дамоў культуры 59 (1966—16), святліц 226 (1966—195), клубаў «Руху» 359 (1966—293), клубаў «Рольніка» 229 (1966—159). У гарадах існуюць і будуць бурна развівацца пляцоўкі прафесіянальных саюзаў. База для культурна-асветнай працы, як бачым, будзе лепшая. Але яна не заступіць неспакойнага розуму, які павінен удыхнуць у мёртвую базу жывое жыццё.

**Вера Леўчук**

# КАМУ ГЭТА ПАТРЭБНА?

Кляшчэлі — невялікая асада ў Гайнаўскім павеце. Каля 20% яе жыхараў — гэта палякі, каля 80% — беларусы, якія заўсёды залічаліся да беларускай нацыянальнасці. Апрача таго ў Кляшчэлях пражывае некалькі сем'яў татараў і адзін украінец Андрэй Нямый, які прыбыў у Кляшчэлі з Украіны ў пачатку дваццатых гадоў.

Да сказанага трэба дадаць, што жыхары Кляшчэляў гутараць на спецыфічным заходне-палескім дыялекце, увабраўшым у сябе многа рысаў украінскай мовы, і што ахвотна спяваюць яны не толькі песні беларускія, рускія і польскія, але і ўкраінскія (хто ж не любіць спяваць чароўных украінскіх песень!)

А цяпер да справы. І так, грамадзянін Андрэй Нямый паставіў перад сабою дэвіз: пераканаць насельніцтва сённяшняй Гайнаўшчыны, што яно ўкраінскай нацыянальнасці. Заданне не малое, можна смела сказаць, што было яно не пад сілу Нямога. Народ наш, вядома, спакойны, куды яму там да такой вялікай палітыкі, тым больш, што дзе Украіна, а дзе Кляшчэлі. І таму вынікі намаганняў Нямога былі б роўнымі нулю, калі б не надарылася аказія і магчымасць заангажаваць у нямыевую ініцыятыву значных сіл і сродкаў. Ад таго часу пасыпаліся на Кляшчэлі, як з рога дастатку, адны прыемнасці: а то прыязджаў з Варшавы нейкі юрыст і пісаў усім паданні, прашэнні і заявы ў найбольш складаных справах, а то інструктар УГКТ. Наведванням, мерапрыемствам, інструктажам не было канца. А вынікі?

Гм. Паспрабуйма падсумаваць.

Быў калісьці ў Кляшчэлях добры хор, які спяваў, між іншым, і ўкраінскія песні. З прычыны створанай непрыязнай атмасферы дырыжор хору пакінуў сваю працу, і хор распаўся.

Быў да нядаўна ў Кляшчэлях Грамадскі пункт культуры, які працаваў пад талковым і аўтарытэтным кіраўніцтвам загадчыка мясцовай школы Яна Харшляка. У выніку склаўшайся атмасферы Харшляк пакінуў сваю працу, і дзейнасць пункта заняпала.

Жылі да нядаўна кляшчэлеўскія жыхары мірна і спакойна не раздумоўваючы замнога аб сваёй нацыянальнасці і нацыянальнасці суседзяў. Зараз патварыліся лагеры: заўзятых украінцаў і заўзятых беларусаў. Сусед глядзіць на суседа крыва, адзін на другога піша ананімы і даносы. «Барацьба за душы» перанеслася ў прадпрыемства асноўнага выхаваўчага значэння, — у школу. Актывісты мясцовага гуртка УГКТ склалі заяву, каб у школе навучалася ўкраінская мова. Галоўнае праўленне УГКТ пастаралася, каб надаць гэтаму дакументу акцэптацыю высокіх асветных улад. Мясцовым уладам не асталося нічога іншага, як прыступіць да рэалізацыі — увядзення ўкраінскай мовы. Уведзена. Прывезена з Бартошыц настаўніка, апрацавана сетку заняткаў. Вынік? Няма каго вучыць. Не прыходзяць дзеці тых, хто злажыў подпісы пад заяваю, а нават тых, хто агітаваў яе падпісваць. Настаўнікі спрабавалі размаўляць з бацькамі. Размовы бывалі розныя, часам даволі дзіўныя.

— Подпіс? — здзіўляецца адна з жанчын. — Падпісваць падпісвала, але я думала, што гэта на бацюшку (подпісы збіраў мясцовы дзячок — Кунаховіч).

— А чорт іх ведае, — тлумачыць другая, — пачалі дакучаць ды і падпісала, а дзіця як сабе хоча — хоча — няхай вучыцца, хоча — не.

Праўду сказаць, дзецям з гэтага ўсяго проста цырк ды ўцеха. Паставіць настаўнік вучню двойку з беларускай мовы, той на другі дзень перастае хадзіць на беларускую і ідзе на ўкраінскую і наадварот. Або яшчэ лепш — нідзе не ходзяць.

— Чаму не ходзіш на ўкраінскую мову? — пытае настаўнік VII-класніка, — маці ж твая падпісалася на заяве.

— Як падпісалася, дык няхай ходзіць, — адказвае той.

Дзіўнай логікаю выведзена прытым у класах II—III навучанне беларускай мовы, выходзячы з таго, што з часам замяніць яе тут украінская мова, хаця ахвотных да навучання беларускай мовы было тут больш, чымсьці ўкраінскай.

Акцыя кляшчэлеўскіх украінцаў выклікала кантракцыю тых, што пачуліся да беларускасці. Прыехалі яны аднойчы ў Беласток, каб прасіць у Галоўным праўленні БГКТ дапамогі ў супрацьдзеянні ўкраінізацыі. Сябры з БГКТ аднак не ўключыліся ў кляшчэлеўскую «вайну», не ведаю — з развагі, ці з ляноты. Калі з развагі — ганаруся развагай пабратымцаў, калі з ляноты — слаўлю ляноту бяздзельнікаў! Бо ў Кляшчэлях вядзецца смешная, асмяшаючая, кампрамітуючая, нікому не патрэбная вайна. Такой менавіта думкі быў адзін аўтарытэтны, высокай культуры і адукацыі ўкраінскі сябар, які быў калісьці ў Кляшчэлях, цешыўся, што тут так умела і годна выкарыстоўваецца найбольш вартасныя элементы ўкраінскай і беларускай культуры, ад удзелу ў «вайне» аднак рашуча адказаўся.

На жаль, у гэтым быў ён адзіны. І таму смешная вайна ў Кляшчэлях прадаўжаецца.

(п)

# КУЛЬТУРНАЯ АКТЫВІЗАЦЫЯ АЎГУСТОВА

Памятаюцца мне галасы некаторых людзей, якія пераконвалі, што ў Аўгустове (Бельскі павет) нічога не асталося беларускага. Свайго часу была тут справа з навучаннем беларускай мовы ў школе, але не ў тым сэнсе, каб яе выкідаць, але каб вучыць добра і з цэлай павагай. Беларуская мова далей існуе ў школе, але ўражанні некаторых аб Аўгустове асталіся не найлепшыя. Не пераняліся тым і аўгустаўляне.

Але аўгустаўлянкі пераняліся. Можа не тым, што аб іх думаюць некаторыя ўлады, але што трэба чымсьці заняцца. Справа на толькі палепшылася, што ў Аўгустове ўмацавалася праца **Гуртка вясковых гаспадынь**, які аб'ядноўвае 48 жанчын. Гурток правёў курсы варэння і пячэння, кройкі і шыцця, а таксама правялі агародніцкі конкурс. У гэтым годзе жанчыны законтрактавалі 2 гектары ільну. Жанчыны пачалі наведваць гарады, ездзіць на экскурсіі ў Белавежу, Беласток, а ў чарзе ёсць Варшава. Усё гэта добра, але каб як-небудзь у сябе што-небудзь культурнага сарганізаваць? — не раз думалі жанчыны, збіраючыся ў школе на тэлевізар ці ў чытальню.

З дапамогай у развязцы гэтай справы прыйшоў мясцовы настаўнік, сакратар партыйнай арганізацыі **Васіль Кардзюкевіч.** Але жанчыны самі мелі выбраць адпаведную форму культурнай працы. І выбралі. Пастанавілі сарганізаваць драмгурток, беручы прыклад хіба са школы, якая сарганізавала пастаноўку на 25-годдзе ППР. Справу пачалі ад пошукаў рэпертуару.

— Свайго часу сабраліся ў школе, — гаворыць В. Кардзюкевіч, — і запрапанавалі, што камедыйкі павінны быць беларускія, бо то і свае і лягчэй навучыцца.

Пачалі ад п'ес апублікаваных у сёлеташнім календары. Неяк найбольш спадабаліся **«Гарадскія госці»** А. Барскага і **«Конская кніжка»** Ул. Паўлючука: «бо то і вельмі блізкія і такую В'ялету і ў нас можна ўбачыць».

— Чаму адразу дзве п'есы? — пытае і дае адказ В. Кардзюкевіч. — Проста з той прычыны, што адны праводзяць рэпетыцыю ў адным памяшканні, іншыя па класах вучацца роляў, яшчэ іншыя глядзяць тэлевізар, а некаторыя разыгрываюць партыю брыджа. Так што міма заканчэння заняткаў школа ўвечары ажывае. А пры такой колькасці ахвотных занятак усім трэба даць.

Хто гэтыя аўгустоўскія артысты? Перад усім людзі жанатыя, якіх дзеці вучацца ў школе. Хаця б прывесці прозвішчы **Юльі Анацік,** якая грала Марысю, **Рыгора Кардзюкевіча** — Тамаша, **Івана Заброцкага** — Кастуся ды і многія, многія іншыя.

Калектыў упершыню выступіў на запусты. Прысутных — больш 250 асоб. Гэта ўжо сведчыць аб многім. Аўгустоўскія самадзейнікі пасля велікодных свят хочуць паехаць з пастаноўкамі ў суседнія вёскі. Мяркуем, што і там яны сустрэнуцца з прыхільнасцю і зацікаўленнем жыхараў...

Неабходна дадаць, што гуртком гаспадынь цікавіцца мясцовы сельгасгурток, які таксама працуе выдатна. З мінулагодніх даходаў пераказаў ён у карыстанне гуртка жанчын 8 тысяч зл. Добра ўладжаны справы з рашарняй, якая дапамагае калектыву ў транспарце.

Гэта і называецца: культурная актывізацыя Аўгустова.

**Аляксей Карпюк**



А ён у адказ:

— Мы сапраўды сустрэліся на барыкадах. — Далучыліся да песні, ішлі зноў разам, крок у крок, нага ў нагу.

Зараз павінна ўліцца ў паток калона лесапільшчыкаў, а пасля тут, на прасторы ўскраіны, адкрыецца мітынг. Вацлаў Санкоўскі прабіраецца паўз край калоны назад. Правярае пікеты. Ён іх начальнік. Кожнаму нешта скажа і імчыць далей. А ў людской масе пранырліва ўвіхаюцца нейкія ягамосці і нашэптваюць:

— Настойвайце на арбітражы... Не завастраць...

І імчацца далей. Ян Куркоўскі назваў бы іх бавэлкамі. Гэта агенты ППС* шныраць паміж рабочымі, расхаладжваюць баявы запал.

Ян Куркоўскі ідзе дзесьці наперадзе пад першым сцягам, разам з папярэдняй баявой дружынай, на чале якой крочыць Станіслаў Барвіна, яе камандзір.

Калона лесапільшчыкаў ужо ішла насустрач з двума сцягамі. Але наперадзе абодвум калонам вынырнула машына, як быццам з-за гары. Адкуль яна ўзялася? Вось імчыць. Хто каму заступіць дарогу? Машына параўналася з калонай, прыцішыла ход і павярнула насустрач, каб праехаць уздоўж калоны. Станіслаў Барвіна пазнаў таго, хто ехаў у машыне і крыкнуў: «Высакінскі...» Крыкі ўзарваліся як бура: «Кат! Кат!, і камяні градам паляцелі ў вокны. Яны трэснулі, зазвінелі, скронь Высакінскага, кіраўніка дэфензівы*, аблілася крывёй. Шафёр раптоўна крутнуў абаранкам руля, і машына падалася ў завулачак. А па ёй забразгалі камяні. Заўважыў Барвіна і другога, хто сядзеў у машыне побач з катам Высакінскім, — пана Чарапіцкага. Яго б у рукі цяпер. Але, можа, яшчэ надыйдзе тая хвіліна?

Тым часам падышла другая падзея. Схаваны за вуглом атрад коннай паліцыі з шаблямі нагола галопам наляцеў на галаву калоны, на баявую дружыну. Зрабілася маленькае замяшанне. Дружына на міг нібы прысела і зараз жа выпрасталася. Людзі вырывалі камяні з бруку і кідалі ў паліцыю, якая хацела адарваць галаву калоны і ўжо ўрэзалася ў натоўп, б'ючы людзей плазамі клінкоў. Раздаўся голас Барвіны: «Паліцыю з коней!» Барвіна ўчапіўся за павадкі аброці афіцэрскага каня, камандзіра паліцэйскага атрада. Афіцэр намагаўся ўздыбіць каня, але гэта ніяк не ўдавалася. Конь падскокваў і тут жа апускаўся на капыты пад рукою Барвіны. Афіцэр ніяк не мог дастаць клінком сваёй шаблі вёрткага Барвіну. Дружыннікі ўжо сцягвалі некалькі паліцыянтаў з коней, а ўся маса раўла, і кідала камяні за камянямі ў паліцэйскіх ваякаў.

— Адабраць сцягі! — верашчаў афіцэр, ніяк не могучы пагнаць свайго каня, якога трымаў Барвіна, як кляшчамі. Тым часам ззаду падбег да афіцэра малады, танклявы чалавек, вырваў нагу афіцэра са стрэмя і пацягнуў. Афіцэр крутнуўся назад, каб агледзецца, шарахнуў шабляй па галаве дэманстранту і разам з ім зваліўся на зямлю. Натоўп рушыў на коннікаў. Пачуліся стрэлы... у сцягі, але гэта было апошняе, што зрабілі паліцыянты. Конная атака была адбіта. Паліцыянты, хто быў яшчэ на кані, паімчаліся прэч, а за імі ўслед пабеглі першыя, якія былі сцягнуты з коней.

Стары Ян Куркоўскі рваў камяні з бруку, крычаў:

«Шчыльней, шчыльней да атакі!» Калі ж паліцыя пабегла, ён падышоў да маладога хлопца, які ляжаў, здаецца, нежывы з акрываўленай галавой. Радам з ім пахілілася яшчэ некалькі рабочых, у тым ліку і Ганорка, дачка Яна. Паднялі, убачылі, што ён быццам нетутэйшы. Саматканая, шэрая куртка на ім і на круглым схудзелым твары нос, як люлечка.

— Вясковы хлопец, — сказаў Ян. — Ганорка, нясіце яго да сябе, а сам думаў: «Ну, чыста, як у 1905 годзе».

Вацлаў Санкоўскі лётаў, як шалёны, упарадкоўваў пікеты, крычаў, што паход будзе прадаўжацца. Побач з Станіславам Барвіным ішла Марыля і дамагалася, каб ён зняў куртку, бо яна на правым плячы была рассечана.

Відаць, вастрыё клінка дакранулася да цела, бо кроў дробнымі кропелькамі капала з рукі. Урэшце, Барвіна зняў куртку, перадаў на хаду Марылі, а потым разарваў рукаў. Рана была нязначная. Выходзіць з радоў непатрэбна. Пара стужак з сарочкі сціснулі рану, і Барвіна, апрануўшыся, пайшоў.

Андрэй з Надзяй дабраліся да папярэдняй калоны, таксама вырывалі камяні з бруку і кідалі. Хоць яны не мелі спецыяльных заданняў, але, калі пачуліся стрэлы і дзе хто хацеў разбягацца, супакойвалі, заклікалі заставацца, не рабіць панікі. Кідаліся то да адных, то да другіх са словамі: «Таварышы, трымайцеся, нас многа!»

Лесапільшчыкі ўжо ўліліся ў агульныя калоны. Паліцэйскія коннікі, каб адпомсціць, аб'ездам зноў атакавалі апошнюю калону, але там сустрэлі таксама адпор. Усё ж такі адарвалі чатырнаццаць чалавек і пагналі перад сабою.

Па пікетах, як па ланцугу вестка дайшла аж да галоўнай калоны, да забастовачнага камітэта.

Тады адкрыўся мітынг. Пікеты павялі заднія калоны за сабою, каб усім былі чутны словы прамоўцаў.

На ўзгорку, на скрыню ўлез стары Ян Куркоўскі і скінуў кепку. Стаяў некаторы час, як манумент на п'едэстале, пaглядаў навокал, а потым пачаў:

— Наша дарога не ружамі ўслана, дарагія таварышы, дарагія працаўнікі



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024




**Няхай жыве Бельск**

За тое, што ўжо сабраў 230 купонаў конкурсу «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача». 182 купоны з самога горада Бельска, што дае бельскім бібліятэкарам вядучае месца.

**Як развіваецца конкурс?**

На бягуча інфармуем; конкурс развіваецца добра. Ужо прыйшло звыш 300 купонаў. Журы хутка прыступіць да работы.

**Што чытаць?**

**Кузьма Чорны**

**«ЛЯВОН БУШМАР»**

Аповесць, якая пачынаецца: **«Зявератую панурасць Лявону Бушмару перадаў бацька — княжацкі дробны арандатар».**

Гісторыя Бушмара, як цікавая казка. Аповесць знойдзем у II томе «Збору твораў» Кузьмы Чорнага.

Там жа яшчэ вельмі добры раман **«ІДЗІ, ІДЗІ»**

У пралогу даведваемся з размовы:

**— Толяк ваш некуды хадзіў на змроку. І Зося тады неўзабаве пайшла.**

А потым ужо над ранкам размова іншая...

**— Нежывая. Яна ўжо ўкачанела.**

Там жа аповесць **«ВЯСНА».**

Кузьма Чорны — аўтар, якім варта зацікавіцца. Раім рушыць з бібліятэчных паліц яго шасцітомны «Збор твораў». Напэўна ніхто не пашкадуе!



Кузьма Чорны.

## НАШЫЯ НАСТАЎНІКІ
# АЛЯКСЕЙ ХАРКЕВІЧ

Настаўнік Аляксей Харкевіч з Ляшукоў працуе ўжо многа гадоў у школе ў сваёй роднай вёсцы.

Добра знаёмы яму ўмовы, у якіх яго вучні выконваюць хатнія заданні. Найчасцей пішуць яны на кухонным стале. У кухні, як вядома, найчасцей бацькі гутараць з суседзямі або суседкамі, наведвальнікамі і сваякамі. Яны размаўляюць, а ты паспрабуй хоць на момант уважліва чытаць ці рашыць задачу. Кепскія хатнія ўмовы, аб якіх я вышэй успамінаў, з'яўляюцца адной з прычын малой паспяховасці навучання. Школьнікі патрабуюць свабоднага месца і цішыні.

Гэта добра разумее Аляксей Харкевіч. Ён працуе з вучнямі ў вольнай школьнай зале пасля ўрокаў. Вучні пасля абеду ахвотна ідуць адрабляць урокі ў школу. Тут яны маюць і фаховую педагагічную дапамогу. Перад усім ідуць тыя, хто адстае ў навуцы і хто не патрабуе далёка ізноў ісці ў школу.

Большую частку складаюць вучні з самой вёскі Ляшукі. Прыклад добрай працы настаўніка з вучнямі пасля ўрокаў у Ляшуках (Гайнаўскі павет) годны ўвагі другім педагогам. Харкевіч мае нават у гэтым свае немалыя поспехі. А заняткі вядзе заўсёды сістэматычна і старанна. Нават тыя вучні, якія неахвотна браліся за ўрокі, маюць цяпер задавальняючыя вынікі ў навуцы.

Вось такім чынам можна дабіцца таго, што амаль усе вучні пераходзяць у наступны клас. Аляксей Харкевіч хоча працаваць без другагоднікаў. А гэта ўжо факт знамянальны, нештодзённы на Гайнаўшчыне.

**Янка Цялушэцкі.**
Новае Ляўкова

**БЕЛАРУСІЯНА**

# ВОДГУКІ

Як мы ўжо пісалі, орган польскіх пісьменнікаў месячнік «Твурчосьць» змясціў артыкул Віктара Рудчыка — «У Польшчы па-беларуску». Віктар **Рудчык указвае** на з'яву ізаляцыі нашай беларускай літаратурнай творчасці, хаця і з'яўляецца яна несумненнай часткай культуры Польшчы.

З прыемнасцю даведваемся, што гэты артыкул выклікаў зацікаўленне ў польскім літаратурным асяроддзі. Тыднёвік «Камэна», часопіс люблінскага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў, поўнасцю пагаджаецца з думкамі і вывадамі Віктара Рудчыка.

— «А жа ж можна знайсці спосабы, каб польскі чытач мог час ад часу сустрэцца з літаратурамі нашых нацыянальных меншасцей. Карысць ад таго была б несумненнай» — піша «Камэна» (31.III. г.г.)

**З МІНУЛАГА**

# МАРЫЛЯ І АДАМ



Адам Міцкевіч пазнаёміўся з Марыляй Верашчака ў маі 1820 года, а не летам 1819 г. Яму было 22 гады, ёй — 21 год. Яна, дачка вялікага пана ў Тугановічах на Навагрудчыне, мела нарачонага ў асобе 26-гадовага графа Путкамера, чалавека высокай культуры.

Адам не адразу закахаўся ў Марылі, яна не была прыгажуняй. Удумлівая і вялікага сэрца, добрая і сімпатычная, запаліла ў сэрцы паэта жар вялікага кахання, якое ўжо не загасала да канца яго жыцця. Кахаліся шалёным каханнем, а калі Марыля стала жонкай графа Путкамера (2.II. 1821 г.), спатыкаліся патаемна — спявалі беларускія песні.

Міцкевіч апынуўся на выгнанні, больш не пабачыліся. Зрэдку даходзілі да Марылі весткі аб ім, сядала тады за фартэпіяна і сумна спявала беларускую думку:

Nie dau mnie Boh,
Nie dau mnie Boh,
Kaho ja chacieła.

Яна пачала курыць.

Аднаго разу ў Парыжы паказалі Адаму Міцкевічу надрукаваны зборнік беларускіх песняў. Ён сказаў: — Усе гэтыя песні, апрача толькі некаторых, я чуў і навучыўся напамяць яшчэ ў дзіцячыя гады ў Навагрудку, у бацькоўскай хаце. Наша служанка Гансеўская ведала ўсе гэтыя песні і спявала іх з дзяўчатамі, што прыходзілі прасці кудзелю. Я і цяпер яшчэ магу заспяваць кожную з іх і паправіць памылкі друкара.

Праўдападобна, Міцкевіч пісаў першыя вершы па-беларуску, між іншым, верш аб пажары ў Навагрудку ў 1810 г. На жаль, яго першыя вершы загінулі бясследна. Але ўся творчасць Міцкевіча, да таго беларуская, што вядомы польскі публіцыст і эміграцыйны палітык Цат-Мацкевіч проста сцвердзіў, што Адам Міцкевіч пісаў па-беларуску польскімі словамі.

**С. Яновіч**

# Партыйная канферэнцыя ў Пасынках

24 сакавіка г.г. у школьнай зале адбылася партыйная канферэнцыя членаў ПАРП пасынскай грамады. У парадку дня ставіліся справы звязаныя са штодзённымі патрэбамі жыцця жыхараў грамадскай рады Пасынкі. Удзельнікі канферэнцыі выслухалі даклад сакратара грамадскага камітэта партыі таварыша Мікалая Кавальчука аб працы грамадскага камітэта і ПОП на вёсках у галіне развіцця сельскай гаспадаркі, развіцця і ўмацавання партыйных арганізацый. Пасля даклада адбылася плённая дыскусія. Дыскутантаў хвалявалі і бытавыя справы жыхараў, як медыцынская апека над людзьмі. Некаторыя дыскутанты закранаді справу аб тым, што паўгода няма ў Пасынках лекара. Гэтыя самыя цяжкасці адчуваюць жывёлагадоўцы з ветэрынарнай дапамогай. Канферэнцыя ў гэтых справах накіравала пастулаты да павятовых улад аховы здароўя і павятовай рады нарадовай. У дыскусіі многа ўвагі дыскутанты прысвяцілі надыходзячым палявым работам.

Канферэнцыя вызначыла дарогу далейшага развіцця і ўмацавання партыі ў вёсцы. У канферэнцыі ўзяў удзел і выступіў з прамоваю сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Бельску, Сцяпан Ігнацюк.

**К.С.**
Катлы

# Сесія ГРН

У канцы сакавіка адбылася сесія ГРН у Ласінцы. Апрача радных у сесіі ўзялі ўдзел старшыні сельскагаспадарчых гурткоў адказныя за ахову раслін і адказныя за кантрактацыю. Сесія ўзняла сельскагаспадарчыя пытанні плана развіцця грамады ў 1967 годзе. У дакладзе галоўная ўвага была звернута на хуткае і спраўнае правядзенне веснавой сеўнай акцыі. Было падкрэслена, што ў грамадзе ўсе вёскі нядрэнна забяспечыліся ў мінеральныя ўгнаенні. Дрэнна толькі праходзіць абмен на кваліфікаванае насенне. Шмат таксама месца было прысвечана кантрактацыі чатырох збожжавых культур. На план 140 га кантрактацыі збожжа агулам у лютым выканана 142 га. Сесія пастанавіла 15 салэцтваў у грамадзе Ласінка падзяліць на 5 раёнаў і гэтым самым паменшыць колькасць адказных за кантрактацыю, перадаючы ім усе абавязкі кантрактацыі раслiннай і гадаўлянай.

Як паказалі падлікі, што пры зменшанай колькасці адказных за кантрактацыю, на кожнага ў год будзе прыпадаць па 1000 зл. у месяц, гэта столькі, колькі зарабляе канцылярыйны працаўнік ГРН.

З мэтай поўнага забеспячэння ў выкананні кантрактацыі на 1967/68 год падпісванне дагавораў пачалося 1-га красавіка.

**Крэс**
Ласінка

станкоў! Хто так думае, той яшчэ рабочага поту добра не нанюхаўся, у таго яшчэ малако на губах. Жыццё рабочага класа — гэта пастаянная барацьба за хлеб, за працу, за сацыялізм.

Сціхла людское мора. А стары Ян паварочваўся тварам то ў адзін бок, то ў другі, працягваў руку наперад.

— Гэтыя чорныя салдафоны ў гузіках, каб такіх маткі больш не нараджалі, хацелі сёння ў крыві патапіць наш голас, хацелі выслужыцца перад сваімі дармаедамі. Дарма! Яны далей сваіх смаркатых насоў не бачаць. Ці ж можна знішчыць рабочы клас?! Га?! Ім не падабаецца, што мы не любім праклятых паноў у Польшчы, ім не падабаецца. што мы любім Савецкі Саюз і гатовы стаць у яго абарону сваімі грудзьмі. Бо там наш брат рабочы выкінуў да ста д'яблаў цароў, князёў, усю зграю капіталістаў і памешчыкаў, паразітаў — такіх, якія яшчэ ездзяць тут на нашых шыях. Сягоннешняя бойка з паліцыяй напомніла мне тысяча дзевяцьсот пяты год, калі мы вось так царскіх жандармаў сцягвалі з коней. Ганьба! Ганьба пілсудчыкаўскаму смуроду, які засмуродзіў Польшчу!

— Дарагія таварышы! — рваў на сабе грудзі стары Ян, — яны ж, псяюхі, прадалі Польшчу з вантробамі нямецкаму кату рабочага класа Гітлеру! Ганьба! Ганьба!

— Ганьба!!! — крыкнуў натоўп.

Усе адчувалі, што голас старога Яна з'яўляецца голасам рэвалюцыйнага Беластока...

...На мітынгу выбралі дэлегацыю, каб яна зараз жа пайшла ў пастарунак і вызваліла арыштаваных. Дэлегацыя пайшла. Усе чакалі. Прамоўцы выступалі за прамоўцамі. Пэпээсаўцы некуды зніклі.

Дэлегацыя прывяла арыштаваных. І тады выбухнуў гром воплескаў.

Калоны з песняй «Чырвоны сцяг» рушылі далей.

Цяпер мэтай паходу было ваяводства — дайсці да яго і выслаць дэлегацыю з дамаганнямі рабочага класа Беластока.

Але па дарозе сустрэла іх новая перашкода.

Сустрэла іх дваццаць пешых паліцыянтаў і столькі ж узброенай моладзі з ваенна-фашысцкай арганізацыі «Стралец». Надзя, убачыўшы іх, амаль крыкнула на вуха Андрэю:

— Глядзі! Гэта з Бельскага павета! Невядома, як яны сябе павядуць? Сярод іх былі яшчэ хлопцы...

Афіцэр паліцыі крыкнуў дэманстрантам, каб разышліся. Калоны ішлі. Тады афіцэр папярэдзіў, што будзе ўжыта зброя. Дэманстранты спыніліся. Наперад вышлі тры маладыя рабочыя і звярнуліся з прамовай да стральцоў.

Афіцэр скамандаваў стральцам узяць вінтоўкі на прыцэл. Стральцы выканалі каманды. Надзя вялікімі вачыма глядзела ў іх бок, глядзела на дэлегатаў, якіх яна сёння ноччу рыхтавала да такога выступлення.

Пачулася каманда: «Плі!» Раздаліся стрэлы, але... у паветра.

Стральцы другой каманды не выканалі. Афіцэр з пенай на вуснах падляцеў да іх і, гатовы біць па тварах, тупаў нагамі, крычаў: «Што?! Не выконваць загаду?! Хто вас так навучыў?!»

Правафлангавы стралец выступіў з шарэнгі крок наперад, як і трэба па статуту, і сказаў на ўвесь голас:

— Мы ў сваіх братоў і сёстраў страляць не будзем!

Афіцэр анямеў. Потым раптам падбег к паліцыянтам і на ўвесь голас заўзята крыкнуў:

— Па стральцах-здрадніках — плі!

Грукнулі стрэлы. Восем чалавек стральцоў упала забітымі. Дэманстранты атакавалі паліцыю...

**Піліп Пестрак**

Урывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах».

1. Калі адбывалася падзея, апісаная ў творы?
2. Як разумееш словы Яна Крукоўскага: «Ну, — чыста як у 1905 годзе»?
3. Як адносіліся дэманстранты да Савецкага Саюза?
4. Выпішы ў сшытак з тэксту твора ўсе заклікі-лозунгі.
5. Чаму беларусы і палякі супольна дэманстравалі супраць санацыйнай улады?

**Прыказкі і прымаўкі**

Хоць хвойку жую, але на волі жыву.
Ці ад пана, ці ад цівуна — а ўсё баліць ад бізуна.
Чужы кажух не нагрэе.
Як век служыць, дык лепей не жыць.

**Біяграфічны даведнік**

Піліп Пестрак — беларускі празаік і паэт. Нарадзіўся ў 1903 годзе. У міжваенны перыяд жыў у Заходняй Беларусі. За рэвалюцыйную дзейнасць 11 год сядзеў у санацыйных турмах. Пасля вайны выдаў зборнікі апавяданняў «Першыя ўсходы», «Лясная песня», раманы «Серадзібор», «Сустрэнемся на барыкадах». У гэтым апошнім творы аўтар адлюстраваў барацьбу беларусаў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне з-пад улады санацыі. Многія з эпізодаў рамана паказваюць рэвалюцыйнае супрацоўніцтва беларусаў і палякаў.

**Слоўнік**

Дэфензіва — аддзел даваеннай польскай паліцыі прызначаны да барацьбы з рэвалюцыйным рухам.
Плі — каманда страляй!
ППС — Польская сацыялістычная партыя.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ЗЯМЛЯ НЕ ЗБЯДНЕЛА АСІЛКАМІ



Патомкі заўсёды штосьці атрымліваюць у спадчыну ад знешняга выгляду і характару сваіх продкаў. Вось чаму вучоныя сцвярджаюць, што, параўноўваючы знешні выгляд сучаснага чалавека, з яго далёкімі родзічамі, можна ўстанавіць заканамернасць у фізічным развіцці і нават прадказаць, якім чалавек будзе праз тысячу ці дзесяць тысяч гадоў.

На жаль, сямейных альбомаў у людзей, што жылі ў далёкім мінулым, не было, аднак гэта не перашкаджае нам дакладна ўявіць сабе, як выглядалі нашы продкі, як змяніліся яны за 60 тысяч гадоў існавання чалавечага роду. Па будове шкілета можна даведацца, якога росту быў чалавек і нават колькі ён важыў. Па размерах лапаткі і ключыцы можна вызначыць, быў ён шыракаплечы ці, наадварот, кволы, вузкагруды.

Вучоныя даследавалі шкілеты з могільнікаў, якія налічваюць 10—12 тысячагоддзяў. Аказваецца, у тыя часы людзі былі невысокія. У сярэднім іх рост не дасягаў і 160 сантыметраў. Звернемся да больш блізкіх нам часоў.

Усё пазнаецца ў параўнанні. Але з чым параўнаць сілу, спрыт, вынослівасць, нарэшце, маральныя якасці чалавека? Пра смельчака прынята гаварыць: ён храбры, як леў, пра асілка — дужы, як бык. Але давайце паглядзім, наколькі справядлівае такое параўнанне. Ці не вельмі сціпла чалавек ацэньвае свае здольнасці?

У СССР жыве на пенсіі былы цыркавы барэц Мікалай Турбас. У маладосці ён паказваў нямала цікавых нумароў: адным пальцам паднімаў трох дарослых мужчын, звязаных ручніком, завязваў «гальштук» з жалезнай паласы, ламаў рукамі падковы. Але самым цяжкім і небяспечным нумарам быў паядынак з быкам. Шэсць служыцеляў выводзілі на арэну вялізнага быка. З чырвоным плашчом у руках выходзіў Турбас. Раз'юшаная жывёліна кідалася насустрач. Адхіліўшыся, смяльчак хапаў быка за рогі. Якой сілай і мужнасцю трэба валодаць, каб перамагчы раз'юшаную жывёліну! І чалавек дабіваўся перамогі: бык падаў на арэну.

Як бачыце, зямля не збяднела асілкамі. Былі яны і ў ранейшыя часы, нямала іх сустракаецца і ў нашы дні. Але пагаворым аб тых, хто не праславіўся ні спартыўнымі рэкордамі, ні маладзецкімі подзвігамі. Паглядзім, ці змяніўся звычайны «сярэдні» чалавек у параўнанні са сваімі продкамі, а калі змяніўся, то ў лепшы ці ў горшы бок?

Пачнём з таго, што ў нашага сучасніка склаўся больш шчаслівы лёс, чым у яго продкаў. Даследуючы астанкі старажытных людзей, вучоныя знайшлі, што ў каменным і бронзавым вяках сярэдняя працягласць жыцця чалавека не перавышала 18 гадоў. У старажытным Рыме яна складала 23 гады, у сярэднія вякі — ад 20 да 30 гадоў. У наш час, калі медыцына знайшла спосабы барацьбы з многімі небяспечнымі хваробамі і ўмовы існавання палепшыліся, сярэдняя працягласць жыцця ў многіх краінах рэзка ўзрасла, а ў Савецкім Саюзе перавышае 70 гадоў.

Людзі, безумоўна, сталі больш рослыя і здаровыя. Гэта няцяжка праверыць, параўноўваючы сучаснага чалавека з тымі, хто жыў сотні гадоў назад. Як гэта зрабіць? Пабывайце ў музеі. Там вы, напэўна, убачыце даспехі сярэдневяковых рыцараў. Агледзьце іх і вы адразу заўважыце, што яны не вельмі вялікія.

А вось больш пераканаўчы факт. Нядаўна англійскія антрапалагі правялі такі дослед. Кожнага з наведвальнікаў музея, які размешчан у старажытным лонданскім замку Таўэр, прычым не на выбар, а самых звычайных людзей сярэдняга росту, прасілі прымераць рыцарскія даспехі. І што ж? Даспехі грозных рыцараў, што жылі шмат стагоддзяў назад, або не падышлі сучасным англічанам, або былі ў абцяжку, як вельмі завужаны касцюм.

Яшчэ адзін прыклад. У Вене стаіць статуя прыдворнага волата аўстрыйскага герцага, адлітая ў натуральную велічыню. Змералі статую — яе рост, аказваецца, 183 сантыметры. Чалавека такога росту ў наш час ніхто неназаве волатам. У любой баскетбольнай камандзе вы сустрэнеце больш высокіх ігракоў. 300 гадоў назад такі рослы чалавек лічыўся з'явай незвычайнай, таму яму паставілі помнік.

Могуць запярэчыць, што гэта не зусім дакладны метад даследвання. Ну што ж, звернемся да сведчання навукі.

Нядаўна супрацоўнікі Навукова-даследчага інстытута антрапалогіі Маскоўскага ўніверсітэта абследавалі чвэрць мільёна чалавек. Яны гэта зрабілі па просьбе... швейнікаў. Здавалася б, якое дачыненне маюць да антрапалогіі краўцы? Аказваецца, маюць і самае непасрэднае. Калі фабрыка выпускае мільёны касцюмаў, трэба ведаць, хто будзе насіць гэтыя касцюмы — людзі высокія ці карантышы, шыракагрудыя ці вузкагрудыя. Інакш кажучы, трэба ўявіць сабе фізічнае аблічча масавага пакупніка для таго, каб кожны мог выбраць сабе касцюм, як па мерцы. Што ж аказалася? Сярэдні рост дарослага мужчыны ў СССР дасягае 167,7 сантыметра.

Статыстыка сцвярджае, што толькі ў нашым стагоддзі людзі «падраслі» на 7—10 сантыметраў.

І ўсё ж высокі рост і шырыня плячэй не доказ таго, што чалавек стаў дужэйшы. Больш пераканаўча гэта дапаможа даказаць спорт.

У 1936 годзе самым дужым чалавекам на зямлі называлі пераможцу XI Алімпійскіх гульняў немца Йозефа Мангера. Ён падняў тады ў суме трохбор'я 410 кілаграмаў. Параўнайце гэтыя лічбы з 580 кілаграмамі, што падняты Юрыем Уласавым!

Возьмем другі від спорту — лёгкую атлетыку. Гадоў 75 назад самым хуткім чалавекам на зямлі быў амерыканец Томас Берке. Яму належаў сусветны рэкорд у бегу на 100 метраў — 12 секунд. Цяпер сусветны рэкорд на гэтай дыстанцыі — 10 секунд. З такой хуткасцю, з якой бег сусветны рэкардсмен Берке, у адным толькі Савецкім Саюзе бегае цяпер не менш чым 100 тысяч спартсменаў. Цяпер нават падлеткі маглі б абагнаць першага алімпійскага чэмпіёна. Нават жанчыны перамаглі б чэмпіёна мінулага стагоддзя. Негрыцянка з ЗША Вільма Рудальф, якая заваявала залаты алімпійскі медаль у Рыме, апярэдзіла б Берке на стометроўцы амаль на цэлую секунду.

Такім чынам, рэкорды сталі значна вышэйшымі, чым раней. Удасканалілася сама тэхніка спорту, людзі даведаліся значна больш пра саміх сябе, аб магчымасцях свайго арганізма і, вядома ж, дзякуючы спорту сталі фізічна здаравейшымі. Такім чынам, можна быць упэўненымі, што мяняемся мы ў лепшы бок.

**Аляксандр Светаў**

ТЭХНІКА

# ШТУЧНАЯ РУКА

Калі чагосьці вельмі не хапае, гавораць тады, што «як без рукі».

А калі няма рукі?

Гэтае няшчасце здараецца, на жаль, вельмі часта. Вядома, другой рукі ніхто не заступіць. Пакуль што лекары не патрапяць «прышываць» рук і ног. Інжынеры, знатакі навейшай галіны навукі, якая называецца **біятонікай**, намагаюцца іншым шляхам аблегчыць жыццё пацярпеўшаму няшчасце чалавеку. Ім — у розных краінах свету — удалося стварыць механічную руку, якая ўпраўляецца электрычнымі токамі чалавечага арганізма і дакладна паўтарае ўсялякія рухі жывой рукі. Гэтая штучная электрычная рука дазваляе трымаць лыжку, шклянку і выконваць прасцейшую працу. На жаль, пакуль што яна не ўладае важнай прыкметай жывой рукі: яна «глухая» — не чуе холаду і гарачыні, не можа ацэньваць цяжару.



**На здымку: дэманстраванне дзейнасці штучнай рукі, якая дакладна паўтарае ўсе рухі жывой рукі.**

Нейтрына

ГАРДОН ЛОНСДЭЙЛ

# ПАМОЧНІК ПАЛКОЎНІКА АБЕЛЯ

* ✲ *

Гардон Лонсдэйл працаваў у Злучаных Штатах да 1954 года, калі быў пераведзены ў Англію. Перад ад'ездам Алек расказаў яму ўсё, што ведаў аб самых падзеях, на якіх Гардон павінен быў сканцэнтраваць у Англіі сваю ўвагу, і асабліва аб Цэнтры па падрыхтоўцы бактэрыялагічнай вайны ў Партоне. У той час там было выведзена некалькі відаў бактэрыялагічнай зброі і трэба было іх добра вывучыць, каб стварыць эфектыўныя сродкі супрацьдзеяння.

Алек паведаміў таксама, што ў Партоне пачаў працаваць адзін з гітлераўскіх ваенных злачынцаў — мікрабіёлаг. Ён тайна падрыхтоўваў правакацыі, разлічаныя на пагаршэнне адносін паміж Захадам і Савецкім Саюзам. Усё гэта Гардон Лонсдэйл павінен быў праверыць і ўдакладніць, акрамя гэтага, ён павінен быў сачыць за ваеннымі прыгатаваннямі Злучаных Штатаў, якія мелі на тэрыторыі Англіі некалькі сваіх ваенных баз.

Каб выехаць у Англію, Гардон вырашыў пераўвасобіцца ў самога сябе, г. зн. стаць канадскім грамадзянінам Гардонам Лонсдэйлам.

У студзені 1955 года Лонсдэйл быў гатовы да выканання новых заданняў.

«Алек даў мне імёны і звесткі пра людзей, якіх я сустрэў у Еўропе. Я павінен быў выпрацаваць план, каб мае сустрэчы прайшлі без ускладненняў.

Мы ведалі, што выкананне пастаўленых перада мною заданняў патрабуе аднаго-двух год і што самай лепшай прычынай для працяглага знаходжання ў Англіі з'явілася б вучоба. У Нью-Йорку, прачытаўшы шматлікія аб'явы аб англійскіх навучальных установах, мы вырашылі, што я паеду вучыцца ў Вышэйшай школе афрыканскіх і ўсходніх моваў пры Лонданскім універсітэце. Гэта ідэя мне спадабалася — я ж даўно марыў вывучаць усходнія мовы, акрамя таго, Алек ведаў, што ў гэту школу накіроўваюць афіцэраў брытанскай ваеннай і палітычнай разведслужбы. А да гэтых джэнтльменаў не шкодзіла б прыглядзецца больш уважліва...»

Летам 1955 года па дарозе ў Еўропу Лонсдэйл пазнаёміўся з амерыканскім маёрам авіяцыі Раймондам Строу, які служыў на базе стратэгічнай авіяцыі ЗША ў Лакнхейтэ, ва Усходняй Англіі.

Пазней Строу часта запрашаў Гардона на уік-энд, пазнаёміў яго з іншымі амерыканскімі афіцэрамі. У час такіх сустрэч Лонсдэйл атрымліваў вельмі цікавыя даныя аб планах Пентагона, збіраў многа іншай каштоўнай інфармацыі. У кастрычніку 1955 года Гардон Лонсдэйл пачаў вучобу ў Вышэйшай школе афрыканскіх і ўсходніх моваў.

* ✲ *

«У школе я, безумоўна, вывучаў усё, што нам выкладалі, — успамінае Лонсдэйл, — але найбольш старанна я вывучаў сваіх калег.

Мне пашчаслівілася быць залічаным у групу англійскіх афіцэраў-разведчыкаў (якім чынам — паведаміць я не магу). Неўзабаве ўсіх іх я добра ведаў — іх характары, схільнасці і нават хатнія адрасы. Спатрэбіўся і мой фотаапарат. Я здымаў на вясёлых вечарынках, якія наладжваліся нашым калегам — канадскім дыпламатам Томасам Папам. Гэта быў ветлівы гаспадар, і напіткі на яго «прыёмах» цяклі ракой, а яны, як вядома, вельмі хутка развязваюць языкі.

У нашай групе вучыўся амерыканец Брэндт, які вырашыў вывучаць кітайскую мову ў Лондане, паколькі гэта было дзешавей, чым у Злучаных Штатах, акрамя таго, гэта давала яму магчымасць убачыць Еўропу. У школе яго, як амерыканца, вельмі не любілі, і ён на лекцыях часта садзіўся побач са мной. Неяк ён штурхнуў мяне і сказаў шэптам: «Слухай, Гардон, акрамя цябе і мяне, тут усе шпіёны».

Безумоўна, было вельмі цікава праводзіць некалькі гадзін у дзень з англійскімі разведчыкамі, але не ў гэтым заключалася мая галоўная задача.

Трэба было збіраць звесткі аб розных відах бактэрыялагічнай зброі.

Мы даведаліся, што ў Пентагоне працуюць некалькі нацысцкіх вучоных і што яны звязаны са сваімі суайчыннікамі ў ФРГ. Працуючы па заданню англійскага ўрада, яны імкнуліся і да ажыццяўлення сваіх уласных мэт, безумоўна, правакацыйных і вельмі небяспечных. У нас жа былі звесткі, што яны збіраюцца выкарыстаць некаторыя віды выведзеных імі бактэрый. Неабходна было перашкодзіць гэтым планам. Рабіць гэта непрыкметна, але, у выпадку неабходнасці, выкрыць іх перад шырокай грамадскасцю».

Гэта заданне Гардон Лонсдэйл паспяхова выканаў.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## СТОРАЖ І ТЭЛЕВІЗАР

Ад 1964 года ў Чыжыках (Гайнаўскі павет) ёсць тэлевізар. Купіў яго сельскагаспадарчы гурток. Тэлевізар змяшчаецца ў школе, таму што ў вёсцы няма святліцы. Кожны вечар збіралася на тэлевізар многа моладзі і старэйшых. Аглядалі праграму да позняй ночы.

За гэта кожны жыхар быў абавязаны плаціць па 5 зл у месяц старажу за тое, што ён пасля іх прыбірае школу. Гэтую зіму не захацеў стораж адчыняць школу, гаварыў, што яму не плоцяць за гэта, што ён мусіць доўга сядзець а потым замятаць. Часта ў тэлевізары бываюць прыгожыя фільмы, а пабачыць іх нельга.

Мужчыны сабраўшыся каля школы сварацца і ўсяляк ругаюць стоража. Цяпер ужо зноў некалькі разоў быў «чынны» тэлевізар.

**М. Швед**
вёска Чыжыкі

## НОВАЯ СЯДЗІБА ГРН

У сакавіку ў Галадах перадана ў карыстанне новапабудаваны будынак прысвечаны на памяшканне прэзідыума ГРН. На гэтую ўрачыстасць прыехалі намеснік старшыні Павятовай рады нарадовай Уладзіслаў Гаданьчук і сакратар — Антон Гіншт.

З. П.
Галады

## ЖЫВЁЛАГАДОЎЦА

Пятро Грыгарук вядомы ў Белках як гадоўца «расплоднікаў». Тры гады трымаў ён бугая. Важыў ён 800 кг, калі здаваў яго на базу. Пасля ўзяў зноў бугая ад дзяржавы, і са злучкі з ім кароў мае значны даход. Восенню мінулага года ўзяў у аддзеле сельскай гаспадаркі барана мерыноса і пародзістага кныра. Пятро Грыгарук добра даглядае расплоднікаў і атрымоўвае ўзнагароды павятовых улад. Гадоўля расплоднікаў прыносіць яму вялікі даход. Дрэнна толькі тое, што Пятро за часта «заглядае» ў чарку.

**Ярош**

## ПА 400 ЗЛ.

Уласнікі гаспадарскіх лясоў не заўсёды ўсведамляюць сабе, якое багацце ў іх руках. Дрэвам з гэтых лясоў паляць у печах. Тым часам, гэтае ж дрэва вельмі ж прыдатнае да вырабу паперы, папулярна называюць яго — «папяроўка».

За адзін кубічны метр «папяроўкі» гандлёвыя арганізацыі плацяць па чатырыста злотых. Лепей паліць у печах каменным вугалем, чым «папяроўкаю», тым болей, што вугаль значна мацней грэе.

(ся)

## ПАПРАЎКА

У справаздачы з настаўніцкай канферэнцыі ў Саколцы, змешчанай у № 15 «Нівы», памылкова (па віне аўтара) напісана Марыя Філановіч, замест Мар'ян Філановіч. Просім прабачэння.

## УПЕРШЫНЮ Ў ГІСТОРЫІ

У другой палавіне сакавіка ў вёсках Волька і Уснаршчына, што на Гайнаўшчыне, упершыню ў іх гісторыі засвяцілася электрычнае святло. Для жыхараў гэтых вёсак было гэта агромнейшым выдарэннем у іх сялянскім жыцці.

К-с
Уснаршчына

## У СПРАВЕ КАМАСАЦЫІ

У зімовы перыяд сяляне вёскі Кутавая правялі некалькі агульнавясковых сходаў прысвечаных грамадскай камасацыі зямлі. На апошнім сваім сходзе падпісалі яны ў гэтай справе пастанову схода і паклікалі 5-ціасабовы камітэт да спраў камасацыі. Згодна з пастановай камасацыя павінна быць праведзена да восені.

Рлес
Кутавая

## ПАСТАЯННАЕ КІНО

Жыхары Рыбакоў пастанавілі дабіцца таго, каб у іх вёсцы было пастаяннае кіно. І гэта ім удалося. Зараз кожны чацвер прыходзяць людзі на кінафільмы. І з кожным тыднем наведвальнікаў пабольшваецца.

М. Л.
Беластоцкі павет




**Дарагое Сэрцайка!**

«Хацела б паступіць на работу ў Фасты. Чытала, што будзе набор у гэтым годзе на курс, пасля якога можна атрымаць там працу. Прашу цябе, Сэрцайка, напішы мне, куды трэба звярнуцца з такой просьбай. За параду буду ўдзячна», — пішуць Надзя і Рэня з Гайнаўшчыны.

Да фабрычнай школы пры «Фастах» ужо вядзецца набор, але толькі тых дзяўчат, якія нарадзіліся ў 1950 і 1951 гадах. З іншых год нараджэння не прымаецца. Прашэнні ўжо трэба дасылаць па адрасу:

Białostockie Przedsiębiorstwo Przemysłu Bawełnianego «Fasty» w Białymstoku — Szkoła Przyzakładowa — Sekretariat.

Вера з Гайнаўшчыны!

Як найхутчэй складай прашэнне і ўсе патрэбныя дакументы на адрас:

Korespondencyjne Technikum Rolnicze Białystok, Dojlidy-Fabryczne 26.

Маня з Бельшчыны!

Аб гастранамічнай школе шукай у адным з апошніх нумароў «Нівы», у кутку «Сардэчныя тайны», дзе мы пісалі аб тэхнікуме і аб засаднічай гастранамічнай школе.

Сэрцайка

## МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ ЛЕВАК



**На аматарскія выступленні сабралася многа людзей.**

У Леўках (Бельскі павет) у школе заўсёды на высокім мастацкім узроўні мастацкая самадзейнасць. Апошнім часам школьнікі Левак падрыхтавалі п'есу «Залатое яйцо». Моладзь Левак, якая аб'ядноўваецца ў гуртку БГКТ таленавітая. Свайго часу, граючы п'есу «Здарэнне на кірмашы», заняла яна першае месца на аглядзе БГКТ у Гайнаўцы і выязджала ў Варшаву на агляд мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей у Польшчы. Зараз БГКТ-оўцы маюць падрыхтаваную п'есу Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка». Школьнікі і моладзь паспяхова выступалі з успомненымі п'есамі ў артыстычнай частцы акадэміі, арганізаванай з нагоды міжнароднага свята жанчын.

**Тэкст і фота П. Зінкевіч**
Бельск



**Сцэна з п'есы «Конская кніжка».**

## ШКОЛЬНАЯ АЛІМПІЯДА

19 сакавіка г.г. у Гайнаўцы адбылася ўрачыстая восьмая школьная алімпіяда пад загалоўкам «Веды аб сучаснай Польшчы і свеце». На алімпіяду прыехалі вучні з некалькіх паветаў. Урачыстасць адбывалася ў ліцэі. Зала была перапоўнена гледачамі, якія ўважліва сачылі за конкурсам. У алімпіяду ўвайшла таксама артыстычная частка. Выступалі з песнямі вучні з двух гайнаўскіх ліцэяў і тэхнікума ляснога з Белавежы. Журы прызнала наступныя месцы: Педагагічны ліцэй з Бельска заняў першае месца, а беларускі ліцэй з Бельска другое месца. Трэцяе месца атрымаў беларускі ліцэй з Гайнаўкі. Гэтыя тры групы прадстаўнікоў паасобных ліцэяў возьмуць удзел у аглядах, якія адбудуцца ў Беластоку. Алімпіяда закончылася ўручэннем журы кніжных узнагарод і дыпломаў для першых трох груп.

**Міша Тэлешэўскі**
Гайнаўка

* ✲ *

Пасля года знаходжання Лонсдэйла ў Англіі стала вядома, што жыць тут яму прыйдзецца больш, чым меркавалася спачатку. Трэба было паклапаціцца, каб пасля заканчэння каледжа выбраць які-небудзь легальны занятак. Лонсдэйл выкарыстаў свой амерыканскі вопыт і стаў прамыслоўцам — кампаньёнам некалькіх фірм. Адна з іх выраблялa электронныя замкі. Прадстаўленыя на Міжнароднай выстаўцы ў Бруселі, яны атрымалі Залаты медаль, як лепшая англійская вынаходка. Шматлікія фота ўладароў фірмы, сярод якіх быў і Гардон Лонсдэйл, абышлі ўсю англійскую прэсу.

У канцы 1960 года Лонсдэйл заўважыў, што за ім сочаць. Ён абмежаваў сустрэчы са сваімі людзьмі да мінімуму. Тыя, каму пагражала небяспека, неадкладна пакінулі Англію.

7 студзеня 1961 года Лонсдэйл ішоў на чарговую сустрэчу з супрацоўнікамі адной з марскіх баз Гары Гаўтанам і яго нявестай Этэль, якая таксама працавала на базе. Гэтыя людзі маглі стаць крыніцай інфармацыі пра бактэрыялагічны цэнтр у Пафтоне. У час гэтай сустрэчы Лонсдэйл быў арыштаваны і 22 сакавіка 1961 года прыгавораны да дваццаці пяці гадоў зняволення, нягледзячы на тое, што яму не маглі інкрымінаваць дзейнасці, якая пагражае бяспецы Англіі. Праўда, гэта дапамагло пазней, калі 22 красавіка 1964 года англійскія ўлады абмянялі Лонсдэйла на свайго разведчыка Грэйвіла Віна, асуджанага ваенным судом.

На працягу трох гадоў, праведзеных Лонсдэйлам у турме англійская разведка спрабавала схіліць яго на свой бок. Яго наведваў былы калега па каледжу, супрацоўнік брытанскай разведкі Элстан, і прапанаваў яму свабоду, калі ён раскажа ўсё, што ведае. Лонсдэйл лічыў за лепшае зняволенне, ён не стаў здраднікам.

У сваіх мемуарах ён піша:

«Ні адзін разумны чытач не зможа дапусціць, што расказанае мной тут — гэта ўсё, што я рабіў у Англіі. Але адзін аспект маёй дзейнасці павінен быць зусім зразумелы. Я ніколі не лічыў, што мая работа накіраваная супраць Англіі як краіны. Я не рабіў нічога, што магло б пашкодзіць англійскаму народу. Гэта датычыць у аднолькавай ступені і маіх калег. Мы добра разумелі, якой небяспекай для чалавецтва з'яўляюцца недабітыя гітлераўцы і амерыканскія мілітарысты.

Няма неабходнасці падкрэсліваць, што толькі з маіх назіранняў нельга было скласці поўнага ўяўлення аб стане спраў. Але я здабываў часцінкі патрэбных звестак, якія давалі магчымасць узнавіць агульны малюнак.

Ні адзін разумны чалавек не верыць цяпер, што Савецкі Саюз ці іншыя сацыялістычныя краіны хочуць вайны. Захад запэўнівае, што таксама не хоча вайны, але на Захадзе, акрамя людзей добрай волі, ёсць Пентагон, ёсць грамадскі мілітарызм, ёсць іншыя ворагі міру. Інфармацыя, сабраная мною і маімі таварышамі аб агрэсіўных планах Пентагона і НАТО, змяншала магчымасць ядзернай катастрофы».

## МНОГА ЗМЯНІЛАСЯ

Некалькі год таму назад і ў нашай вёсцы, у Чэхах Арлянскіх, стала многа рабіцца, сталі заходзіць вялікія перамены. Спачатку была электрыфікавана вёска. Пасля арганізоўваўся сельскагаспадарчы гурток, а гэта значыць, што сельскагаспадарчыя працы сталі выконвацца машынамі.

Сяляне сталі забываць пра цэп і серп. Ужо і касою збожжа мала хто косіць. Нават ужо бульбу капаюць у нас капалкамі. Дзякуючы механізацыі, людзі лягчэй працуюць і маюць больш часу. Зімою амаль усе жыхары нашай вёскі робяць саламяныя каробкі. Сяляне нашыя жывуць заможна. У кожнага ёсць радыёпрыёмнік, матацыкл і многія ўжо маюць пралькі і думаюць аб пакупцы тэлевізара. Зараз будуецца новая школа і ўжо на восень будзе аддана ў карыстанне.

**Мікола Корх**
Чэхі Арлянскія

## ВЕСТКІ З АГАРОДНІК

Вёска Агароднікі, што ў Бельскім павеце, налічвае каля 70 сем'яў. У вёсцы ёсць чатырохкласная школа. Кіраўніком яе з'яўляецца Генрык Фальварскі. У 1964 годзе ў вёсцы пабудавалі грамадскім чынам прыгожую злеўню малака. Сяляне вазілі жвір і каменне, а нават памагалі пры будове. Ад 1965 года ў Агародніках існуе гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у які запісалася моладзь вёскі. У вёсцы таксама ёсць сельгасгурток, які мае сеўнікі і малатарню. Хутка гурток атрымае 2 трактары. Можна сказаць, што Агароднікі не адстаюць ад іншых вёсак.

**Мікалай Заброцкі**
Агароднікі

# КІНО

**Праграма**
**на 25—30.IV.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Po latach" (radz.), 25 — 26. „Listek figowy" (włoski), 27—28. „Sublokator" (polski), 29 — 30.

**Кляшчэлі**
„Długość pocałunku 90" (czeski), 25 — 26. „Zerwany most" (polski), 27 — 28. „Cierpkie głogi" (polski), 29 — 30.

**Дубіны**
„Święta wojna" (polski), „Wystrzał (polski), 29 — 30.

**Нараўка**
„O carski tron" (bułg.), „Siódmy przysięgły" (franc.), 26—30.

**Нарва**
„Winnetou" (jugosł.), I i II s. 26 — 30.

**Чыжы**
„Oskarżony" (czeski), „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 26—30.

**Дубічы Царкоўныя**
„Trzy kroki po ziemi" (polski), „Spacer po linie" (angl.), 26 — 30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Cisza, na sali operacja!" (radz.), „Dzwonić Nortside 777" (USA), 26 — 30.

**Орля**
„Szalone wakacje" (jugosł.), „Nigdy nie wrócę" (radziecki, 26—30.

**Райск**
„Kraksa" (radz.), 25—26. „Dni grozy i śmiechu" (USA), 26—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Trzy klucze" (jugosł.), „Pamiętnik pani Hanki" (polski), 25 — 28.

**Міхалова**
„Teresa Desourex" (franc.), 25 — 26. „Poławiacze gąbek" (radz.), 27—28. „Bokser" (polski) 29 — 30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Kiermasz" (NRF), 25 — 26. „Grek Zorba" (USA), 27 — 28. „Pierwszy dzień wolności" (polski), 29 — 30.

**Шудзялава**
„Trzy życzenia" (czeski), „Samson" polski), 26—30.

**Сідра**
„W krainie dziwnych zwierząt" (radz.), 25 — 26. „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 27 — 28. „Arcylokaj" (franc.), 29 — 30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Głosuję na miłość" (jugosł.), „Dzielnica kruków" (szwedzki), 26 — 30.

**Новы Двор**
„Gdzie jest trzeci król" (polski), „Wierność" (radz.), 29—30.

**Ліпск**
„Przybycie tytanów" (włoski), 29 — 30.

Ніва

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6556 Błtk M-3



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# „РЭПАТРЫЯНТЫ"

Пазалонскага года, восенню, прышоў да мяне Федзік з Макарынаю і гаворыць: — Ну, суседка, прышлі мы да вас папрашчацца...

Вытрашчыла я вочы, і кажу: — А я ж нікуды не выязджаю. Хіба вам хто чаго напутаў?

А Федзік, заціраючы рукі: — Але мы выязджаем...

— У госці да сына едзеце?

— Ды не, зусім выязджаем. Будзем у горадзе жыць! І мы цяпер булачак папрабуем! — пахваліўся...

— Эй! Федзік, Федзік, як то прымаўка кажа: — на чужы каравай рота не раздзяўляй. Вы пакідаеце відзючае, а едзеце сляпога шукаць.

— О! наш зяць вялікую хату мае. Федзік пойдзе на работу і будзем жыць прыпяваючы! — запішчала тоненькім галаскам Макарына.

— А вам за пару месяцаў заказным пісьмом прышлем здымку. Не пазнаеце нас! — пахваліўся Федзік.

— А хто ж будзе абрабляць вашу гаспадарку?

— А няхай сабе робіць хто хоча. Мы ўсю зямлю здалі на скарб панства...

Папрашчаліся і паехалі. Пару месяцаў людзі гаварылі пра іх, а я ніяк не магла дачакацца ад іх заказнога пісьма. Аж у мінулую восень прыехала Макарына. Дачулася я ад людзей, што прыехала на курорт. Выбралася я ў нядзельку адведаць. Як убачыла мяне, то аж заплакала з радасці, і кажа: — Праўду вы мне гаварылі, Мальвінка, але чаму я дурная адразу вас не паслухала!..

— А што, вам ужо так хутка гарадскіе булкі прыеліся?

А Макарына: — Тут то я была сама сабе гаспадыня, а там зрабілі з мяне служанку. Пакінула іх, плюнула на ўсё і прыехала.

— Як то, назаўсёды?!

— Вядома што назаўсёды! Ты паверыш, Мальвіна, яшчэ ў галаве шуміць мне ад таго горада.

— А што з Федзікам?

— А як сабе хоча. Пакінула і ўсё...

Але зараз па Новым годзе вярнуўся на вёску ў зацявай аблезлай карватцы ге стрэпаны Федзік. Сустрэўшы мяне бедаваў, што павет няхоча яму вярнуць зямлі.

— А мо' ведаеце, у каго ўзяць у арэнду? Добра, што хоць хаты не здаў, — цешыўся...

Але ж падумайце, добрыя людзі, сам цераз сваю хітрасць з гаспадара смяцём зрабіўся. Вось якая Рэпатрыяцыя!..

Цёта Мальвіна





— Звяртаю табе кольца: ты свабодны!

### ЖАБА

Тулялася жаба па балоце, баялася буслу ў дзюбу трапіць. Ды раптам стукнулася галавой аб корч. Адскочыла жаба ды як напусцілася на корч:

— Ці ты аслеп, каб табе вочы павылазілі, з дарогі сыйсці не можаш, каб ты камнем сеў!

Бачыце, корч вінаваты аказаўся.

Я. Казлоўская

### ПАМЕРАЛІСЯ

На станцыі ў буфеце сядзіць селянін і п'е гарбату. Каля яго стаіць пан і есць курчо. Паглядзеў пан на селяніна дый голасна кажа:

— От народ пайшоў! Што мужык, то і свіння!

—Няпраўда, — адказвае селянін. — Свіння заўсёды есць стоячы, а мужык седзячы.

### У РАДЗІЛЬНЫМ ДОМЕ

Малады мужчына нецярпліва крочыць па вестыбюлі радзільнага дома. Нарэшце з'яўляецца сястра.

— Ну? Хутчэй гаварыце, кім я стаў: бацькам ці маці?

### ПАЛЯЎНІЧЫ «ЦУД»

Да групы англійскіх арыстакратаў, што сабраліся ехаць паляваць на курапатак, далучыўся госць з-за акіяна, які з апломбам аб'явіў, што ён самы меткі стралок на ўсім поўдні ЗША.

— Вось убачыце, — выхваляўся ён, — першую ж курапатку я заб'ю адным выстралам...

Над амерыканцам праляцела птушка, ён, выстраліў, але... нічога не здарылася.

— Джэнтльмены, — з радасцю звярнуўся да астатніх паляўнічых старшы шатландзец — мы сведкі цуда: ад нас адлятае мёртвая курапатка!

### МУДРЫ ТВОР

Эўрыпід пазнаёміў Сакрата з творам Геракліта, а пасля запытаўся, што ён, Сакрат, думае аб гэтым творы. Сакрат сказаў:

— Тое, што я зразумеў, мудра. Думаю, што мудра таксама і тое, чаго я не зразумеў.



— Бацька прасіў перадаць, што ён змарыўся і што няхай мяне ў школе выхоўваюць.

### ЗМЯЯ

Змяя, папаўшыся, сказала:
— Прычым тут я, вініце джала!

Павел Шыбут



Кожная вялікая мудрасць мае свае малыя недахопы.

✲

Можна знайсці выхад з найгоршай сітуацыі, толькі трэба трапіць у адпаведныя дзверы.

✲

Хто заўсёды глядзіць угору, і на гладкай дарозе можа спатыкнуцца.

✲

Гультай таксама цвердзіць, што дарма ніколі не марнуе часу.

✲

За чужымі плячыма можна схавацца ад найсільнейшага ветру.

### З САВЕЦКАГА ГУМАРУ




— Цікава. Такі стары а з барадой.



Наглядзеўшыся каўбойскіх фільмаў.

# СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Словы М. Багдановіча — Музыка М. Мацісона




Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.

А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;

Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;

Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узору,
Цвяток радзімы васілька.



### ШТО СКАЗАЛА ЕВА

У жыцці аднаго з самых дужых людзей на зямлі — бельгійскага штангіста Сержа Рэдынга адбылася важная падзея: ён пакахаў. Выбранніцай 25-гадовага бібліятэкара з Бруселя стала былая 19-гадовая варшавянка Ева Чарніеўска.

Свой прыезд у Варшаву на спаборніцтвы з польскімі цяжкаатлетамі Серж Рэдынг «сумясціў» з вяселлем.

Аднак муж і жонка яшчэ не вырашылі, у якой краіне яны будуць жыць. Цяпер апошняе слова належыць Еве. Калі ёй не спадабаецца ў Бельгіі, яны вернуцца ў Польшчу. У гэтым выпадку ў выйгрыцы будзе польская цяжкая атлетыка. Серж Рэдынг з вынікам трохбор'я 525 кілаграмаў займае восьмае месца ў спісу лепшых штангістаў за ўсю гісторыю спорту. Прычым гэта сума, вядома, не вычэрпвае магчымасцей 120-кілаграмовага бельгійскага асілка. У польскай зборнай, якая перамагла ў камандным заліку на чэмпіянатах Еўропы і свету ў 1965 годзе, месца цяжкавагоўка якраз вакантнае, і Рэдынг тут быў бы дарэчы.

Трэнеры польскіх штангістаў з нецярплівасцю чакаюць, што скажа Ева.

### НОВЫ ВІД СПОРТУ

Пачатак новаму віду спаборніцтваў — скарасному чытанню ўслых — пакладзены ў Эсэне (ФРГ). Першым рэкардсменам стаў 62-гадовы Петэр Шпігель. Ён здолеў завесці скорасць чытанняў услых да 908 складоў у мінуту.



Гасцям падавайце страву перасоленай. Гарантуем — многа не з'ядуць.